ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 39 12 кастрычніка 1995 г.
(2441) Выдаецца з 1955 г. Цана 800 рублёў.

## ЮБІЛЕЙ СТАРАЖЫТНАГА НАВАГРАДКА





# "ТО МАЙГО СЭРЦА ЛЮБАЯ АЙЧЫНА..."

Ёсць ГАРАДЫ, якія людзі імкнуцца абавязкова назваць сваімі, нават калі яны там жылі толькі год ці два, нават калі яны спрычыніліся да тых гарадоў толькі сваёй справай, працай, думкай.

Навагра́дак -- з такіх месцаў. Навагрудскімі называюць сябе людзі з суседніх і аддаленых вёсак, людзі з Любчы, Наваельні, Карэліч, нават з Міра -- таго самага, слыннага сваім замкам, што аднаўляецца на вачах, яны таксама лічаць за гонар спрычыніцца да "звання" навагрудца. На тое ж нацэльвалася і навагрудская сяброўна, звяртаючыся да людзей, што мелі карані ў гэтым горадзе, у блізкіх і далёкіх яго ваколіцах: "Гэй, навагрудцы!" Збіраліся наладзіць на 950-я ўгодкі горада з'езд выхадцаў з Навагрудка. Афіцыйна такая падзея не адбылася. Аднак людзі ехалі сюды. На сустрэчу з горадам. Госці і тутэйшыя. На юбілей.

І незалежна ад гэтай даты годна і лётна высіліся знакамітыя вежы, і быў скіраваны на іх рамантычна ўзнёслы і засяроджаны позірк Адама Міцкевіча, і запрашаў на ганаровую праходку курган Паэта, і мела нейкую сваю сакральную думку Фара, якая толькі што адзначыла сваё 600-годдзе, і самавіта набіраў надзею на аднаўленне касцёл дамініканаў, дзе рэстаўрацыя, падобна, падыходзіць да канца.

А лістота навагрудскіх дрэў, адчуваючы інфляцыйныя цяжкасці і нястачу дзяржаўнай гатоўкі, скарбніцы на ўсіх узроўнях (дарэчы зазначыць, што святу быў нададзены абласны статус), падрыхтавала ўсю раскошу свайго ўбрання -- золата, золата, золата: чырвонае, белае, яшчэ нейкіх вядомых толькі ўладарыні Натуры фарбаў. Ніякія клейноты, ніякі брокат тут не паспрачаюцца. Да таго ж, 23-га, у суботу, у дзень народнага святкавання, прырода змяніла слотны сур'ёз навуковай пятніцы, калі праводзіліся "Навагрудскія чытанні", на зіхаценне і бляск. Уся раскоша фарбаў была падсвечаная "блакітам і золатам дня", сонца "задзейнічала" свае верасnёвыя рэзервы, і "апаратура", роўнай якой не мае ніводная, самая магутная тэле- і кінафірма, вызалаціла прысады парку ля Дома-музея Адама Міцкевіча і на замчышчы, у парку і на вуліцах горада, такой раскошай-аздобай: што там усе ілюмінацыі і ўпрыгожванні ўрачыстых дзействаў. І вызнаныя гербы горада былі нібыта дадаткам да святочнага ўбрання, якое падрыхтавала Прырода.

Пачатак жа свята здзейсніўся на Замкавай гары: быў узняты штандар Рады Еўропы да Еўрапейскіх Дзён Спадчыны і адбылося ўрачыстае адкрыццё памятнага знака, прысвечанага 400-годдзю герба горада.

(Заканчэнне на 4-й стар.).

**НА ЗДЫМКАХ: навагрудчане святкуюць юбілей свайго горада; помнік славутаму земляку Адаму Міцкевічу.**

## ПРАБЛЕМЫ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ШКОЛЫ

# КАЛІ ПРЫЙДЗЕ ЧАС ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ ЛЮДЗЬМІ СТАЦЦА?

*Яшчэ напярэдадні новага навучальнага года некаторыя настаўнікі і прадстаўнікі грамадскасці выказвалі апасенне наконт тэндэнцыі скарачэння колькасці беларускамоўных класаў у Беларусі. Рабілася гэта не беспадстаўна. Тое, што надыходзіць новая хваля русіфікацыі, стала відавочна адразу пасля рэферэндуму. І вось скончыўся верасень -- першы месяц навучання, падведзены першыя вынікі па школах. Яны не цешаць: ніводная з 136 школ горада, што мелі статус беларускамоўных, гэты статус не захавала. У параўнанні з мінулым годам колькасць першакласнікаў, якія будуць вучыцца на роднай мове, зменшылася амаль у тры разы, гэта значыць, 5 524 вучні пачалі вучыцца па-беларуску, [illegible]0 232 -- па-руску. Больш таго, пасля апытання настаўнікам[illegible]цькоў вучняў 2--4-х класаў ад роднай мовы адцураліся нават тыя, чые дзеці ўжо пэўны час вывучалі яе. У лічбах гэта выглядае так: у 2-х класах адмовіліся ад беларускай мовы 4 365 вучняў (у выніку атрымаўся расклад 9 534 -- беларуская мова і 15 551 -- руская мова); у 3-х класах -- 2 325 вучняў (адпаведна 10 988 і 13 549); у 4-х -- 1 121 вучань (10 078 і 14 614). З гэтага можна зрабіць адзіную выснову: ледзь беларусы дакрануліся да с[illegible] каранёў, толькі пачалі прабівацца першыя парасткі свядо[illegible]ці, як усё гэта зноў зняважана і мусіць быць знішчана.*

*Аб стане нацыянальнай адукацыі сёння пагадзілася паразмаўляць з нашым карэспандэнтам Вольга КУЗЬМІЧ, старшыня Камісіі па выхаванню і адукацыі Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў.*

**-- Вольга Аляксандраўна, літаральна за некалькі апошніх гадоў нацыянальная адукацыя зрабіла неверагодны крок наперад. Падавалася, ужо створаны нацыянальны падмурак. І вось цяпер такія змены...**

-- Беларусізацыя школы распачалася вельмі хутка, бо яе падтрымалі ўлады. Згодна з распрацаванай праграмай развіцця беларускай мовы ў Мінску, напрыклад, да 2000 года 78 працэнтаў вучняў павінны былі вучыцца на роднай мове. У мінулым годзе сярод першакласнікаў гэта лічба ўжо дасягнула 60,9 працэнта.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## ВОСЕНЬСКІЯ ФАРБЫ РОДНАЙ ЗЯМЛІ



**Восеньскія фарбы... Разнастайнасць колераў хвалюе і радуе, выклікае ў душы замілаванне і рамантычны настрой. "Багацце роднай зямлі" -- так называлася выстава восеньскіх кампазіцый з прыроднага матэрыялу ў дзіцячым садзіку N 183 акцыянернага таварыства "Мінскі завод ацяпляльнага абсталявання".**

(Заканчэнне на 8-й стар.).

**НА ЗДЫМКУ: выхаванцы 183-га дзіцячага садзіка.**

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*У БЕЛАРУСКІМ ПАРЛАМЕНЦЕ*

### СЕСІЯ НЕ САБРАЛАСЯ. НЯМА КВОРУМУ

3 кастрычніка Вярхоўны Савет павінен быў пачаць чарговае пленарнае пасяджэнне, аднак раніцою ў Авальнай зале Дома ўрада сабралася толькі каля 170 дэпутатаў -- для кворуму не хапіла каля 30 дэпутатаў. Напярэдадні вечарам у выступленні па Беларускім тэлебачанні А. Лукашэнка звярнуўся да членаў "нелегітымнага", на яго думку, парламента з патрабаваннем не збірацца больш на сесію.

Сход дэпутатаў старога Вярхоўнага Савета, які адбыўся 3 кастрычніка, можна назваць завочнай дыскусіяй з двухгадзіннай тэлепрамовай А. Лукашэнкі напярэдадні вечарам. Мечаслаў Грыб ва ўступным слове, спасылаючыся на Канстытуцыю, Канстытуцыйны суд і іншыя крыніцы, яшчэ раз абверг абвінавачванні А. Лукашэнкі ў нелегітымнасці парламента і зазначыў, што калі ў Прэзідэнта ёсць на гэты конт сумненні, то няхай ён ставіць гэтае пытанне ў законным парадку -- у Канстытуцыйным судзе.

Негатыўную рэакцыю парламентарыяў мелі і іншыя выказванні Лукашэнкі -- у прыватнасці, аб падспраздачнасці яму Канстытуцыйнага суда, Вярхоўнага суда і інш.

Адзінае радуе, што наша айчынная спрэчка паміж парламентам і Прэзідэнтам пакуль не вырашаецца так, як гэта адбылося роўна 2 гады таму ў Маскве.

*МЕДЫЦЫНА*



Апошнюю пліту паклалі 26 верасня ў перакрыц[illegible] рэспубліканскага дзіцячага анка-гематалагічнага ц[illegible]тра. На гэтай цырымоніі прысутнічалі намеснік міністра аховы здароўя Аўстрыі па каардынацыі Ульрых Штахер і міністр аховы здароўя Рэспублікі Беларусь Інеса Драбышэўская.

Цэнтр прызначаны для аказання высокакваліфікаванай спецыялізаванай дапамогі дзецям, што пакутуюць ад анка-гематалагічных захворванняў. На падставе сучасных медыцынскіх тэхналогій тут жа будуць распрацоўвацца новыя метады дыягностыкі і лячэння анка-гематалагічных захворванняў для ўкаранення іх у шырокую практыку дзіцячай анка-гематалогіі. У цэнтры адначасова змогуць лячыцца больш за сто дзяцей.

Аснашчэнне медыцынскім і інжынерным абсталяваннем будзе праведзена за кошт аўстрыйскага боку. На гэтыя мэты ўрад Аўстрыі выдзеліў 5 мільёнаў долараў ЗША і адзін мільён -- дабрачынная аўстрыйская арганізацыя "Хілфсверк".

НА ЗДЫМКУ: выступае намеснік міністра аховы здароўя Аўстрыі Ульрых ШТАХЕР.

### НЕ ПА КІШЭНІ

У Маскве адбыўся 5-ты міжнародны кангрэс урачоў-стаматолагаў, зубных тэхнікаў і вялікая выстава стаматалагічнага абсталявання і медпрэпаратаў.

У ёй удзельнічалі ўсе краіны СНД, Германія, Аўстрыя, Італія, Польшча, Іспанія, ЗША. У Беларусі запрашэнні атрымалі 9 чалавек, але ўдзельнічаць у кангрэсе змаглі толькі пяцёра. У лячэбных установах не знайшлося грошай, каб адправіць у былую сталіцу Саюза сваіх прадстаўнікоў. Толькі за ўдзел патрабавалася заплаціць 230 долараў. Такія расходы аказаліся па кішэні толькі медыцынскаму цэнтру трактарнага завода і паліклінікі завода халадзільных установак. Азнаёміўшыся з найноўшымі дасягненнямі ў галіне хірургіі і пратэзіравання, нашы ўрачы яшчэ больш востра адчулі неадпаведнасць матэрыяльнай базы айчыннай стаматалогіі міжнароднаму ўзроўню сучаснай зубаўрачэбнай дапамогі.

*РЭХА ПАДЗЕІ*

### ЦІ ЗАСТАНЕМСЯ НЕЗАЛЕЖНЫМІ?

3 кастрычніка Савет Федэрацыі расійскага парламента звярнуўся да прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына, Дзяржаўнай думы, урада краіны і грамадскапалітычных арганізацый з прапановай падтрымаць ідэю правядзення ў Расійскай Федэрацыі рэферэндуму аб паглыбленні эканамічнай і палітычнай інтэграцыі Расіі і Беларусі.

У якасці аргумента расійскія парламентарыі прывялі той факт, што Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка зрабіў шмат крокаў у гэтым накірунку і што 85 працэнтаў насельніцтва рэспублікі на майскім рэферэндуме адназначна выказаліся за інтэграцыю з Расійскай Федэрацыяй, а таму надышоў час Расіі зрабіць крок у адказ.

Кіраўнік дзеючага парламента Беларусі XII склікання Мечаслаў Грыб заявіў карэспандэнту "Звязды", што гэта ўнутраная справа Расіі, якія рэферэндумы праводзіць, але паколькі Расія і Беларусь з'яўляюцца добрасуседскімі дзяржавамі, дык усенародныя рэферэндумы ў Расіі не могуць супярэчыць Канстытуцыі і заканадаўству Беларусі, а гэтае рашэнне Савета Федэрацыі супярэчыць ім -- у той частцы, дзе ідзе размова пра палітычную інтэграцыю.

-- Мне, як дэпутату і спецыялісту ў галіне міжнароднага права, досыць дзіўна было даведацца, што Савет Федэрацыі прыняў такое рашэнне, -- зазначыў дэпутат Вярхоўнага Савета XIII склікання Павел Знавец.

П. Знавец бачыць небяспеку для беларускай дзяржаўнасці, мяркуючы, што калі і на гэты раз Беларусь будзе інкарпаравана ў састаў Расіі, ёй не ўдасца адрадзіцца...

Так ці інакш, прыходзіцца канстатаваць, што Беларусь, у тым ліку і з-за няпэўнай пазіцыі свайго кіраўніцтва адносна нашай незалежнасці, становіцца разменнай манетай у перадвыбарных расійскіх гульнях.

*ПРАФСАЮЗЫ*

### ПЕНСІЯ — НЕ ЛЬГОТА

Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі не згодна з Указам Прэзідэнта "Аб некаторых пытаннях рэгулявання працоўнай дзейнасці і пенсійнага забеспячэння грамадзян". У заяве гаворыцца, што правы грамадзян, у тым ліку і працуючых пенсіянераў, на атрыманне назначаний ім пенсіі ў поўным памеры замацавана ў артыкуле 83 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб пенсійным забеспячэнні".

Пенсія -- не льгота, што прадастаўляецца дзяржавай, а тое, што зароблена, заслужана людзьмі за многія гады працы. Да таго ж, сярэдні ўзровень пенсій у рэспубліцы невысокі, не забяспечвае неабходнага пражытачнага мінімуму, што вымушае многіх пенсіянераў працаваць па найму.

*АДУКАЦЫЯ*

### РОДНАЯ МОВА СТАЛА НЯМІЛА?

Толькі ў чатырох першых класах школ Чэрвеня і гарадскога пасёлка Смілавічы Чэрвеньскага раё[illegible] гэтым годзе навучанне будзе весціся на белару[illegible] мове, астатнія ж школы сталі рускамоўнымі.

Услед за школамі стала "знікаць" родная мова і з дзіцячых садоў. Калі ў мінулым годзе ва ўсіх дашкольных установах горада і пасёлка выхаванне поўнасцю вялося на беларускай мове, то ў сёлетнім -- толькі ў пасёлку Смілавічы. У Чэрвені ж засталіся з шасці толькі два беларускамоўныя сады.

*ПАЛІТЫКА*

### АБ'ЯДНАНАЯ ГРАМАДЗЯНСКАЯ ПАРТЫЯ

У стане беларускіх палітычных арганізацый -- змяншэнне. Зніклі адразу дзве партыі -- Аб'яднаная дэмакратычная і Грамадзянская. Справа ў тым, што ў час агульнага з'езда адзінагалосным рашэннем дэлегатаў партыі зліліся ў адну -- Аб'яднаную грамадзянскую партыю.

Па прагнозах некаторых беларускіх палітолагаў, Аб'яднаная грамадзянская партыя абяцае стаць прыкметнай сілай у беларускай палітыцы. І гэта не проста словы: буйныя бізнесмены, дырэктары буйных прамысловых арганізацый, банкіры -- вось касцяк новай партыі. Старшынёй адзінагалосна абраны Станіслаў Багданкевіч. Толькі адно гэта імя гаворыць пра многае...

*СЕЛЬСКІЯ НАВІНЫ*



У саўгасе "Асташкавічы" Светлагорскага раёна паспяхова займаюцца вырошчваннем кукурузы на насенне і забяспечваюць імі многія кукурузаводчыя гаспадаркі вобласці. Тут вырошчваюць і новую кармавую культуру амарант.

НА ЗДЫМКУ: кукурузныя пачаткі, прызначаныя на насенне, сартуюцца ўручную.

*БЕЛАРУСКАЕ ПІВА*



На Рэчыцкім арэндным піваварным заводзе пачала дзейнічаць лінія па разліву піва ў слоікі. Магутнасць яе 12 тысяч слоікаў у гадзіну.

Прадукцыя рэчыцкіх піваварў карыстаецца попытам не толькі ў Беларусі. З задавальненнем купляюць "Дняпроўскае" і ў Расіі. Якасць яго і ўпакоўка адпавядаюць еўрапейскім стандартам.

НА ЗДЫМКУ: лабарант-хімік Вольга ЛУЦКО сочыць за якасцю "Дняпроўскага".

*МОЖА, РАЗБАГАЦЕЕМ?*

### ЗАЛАТЫ РЭСУРС — 100 ТОН

Хутка ў Беларусі пачнецца прамысловая здабыча золата. Сёння ў краіне знойдзена каля 30 прамысловых золатапраяўленняў. Гэта Заслаўскі, Чаркаскі і Кохanaўскі кар'еры, у якіх золата можна здабываць танным адкрытым спосабам. Першыя кілаграмы каштоўнага металу ўжо атрыманы. Залаты рэсурс рэспублікі ацэньваецца больш чым у сто тон. У гэтым годзе Белгеа праводзіла ацэнку залатых запасаў, адпрацоўвала тэхналагічную здабычу.

*АХОВА ПАРАДКУ*

### ВЕРТАЛЁТЫ СУПРАЦЬ ЗЛАЧЫНЦАЎ

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка выдаў распараджэнне, згодна з якім Міністэрства абароны абавязана, пачынаючы з лістапада, арганізаваць дзяжурства двух верталётаў МІ-8Т з экіпажамі для павышэння аператыўнасці ў выкананні спецыяльных мерапрыемстваў па барацьбе са злачыннасцю.

Міністэрству ўнутраных спраў па ўзгадненні з Міністэрствам абароны даручана распрацаваць і зацвердзіць інструкцыю аб парадку дзяжурства і выкарыстання верталётаў.

*ЗАМЕНА СІМВОЛІКІ*

### МІЛІЦЫЯ ПРЫМЯРАЕ НОВЫЯ ШАЎРОНЫ

Нядаўна калегіяй МУС былі зацверджаны ўзоры новых нарукаўных знакаў для супрацоўнікаў беларускай міліцыі. У чым жа сутнасць навізны! Справа ў тым, што неўзабаве шаўроны стануць паказчыкамі прыналежнасці не толькі да сістэмы айчынных праваахоўных органаў, але і да канкрэтных яе падраздзяленняў. Напрыклад, на рукаве работніка цэнтральнага апарату МУС будзе адлюстраваны герб Беларусі, а на рукаве патрульнага з Магілёва -- герб гэтага горада з адпаведным надпісам: "Магілёў". Пакуль цяжка прадугадаць рэальны эфект ад гэтага новаўвядзення, затое можна парадавацца, што палепшыцца знешні выгляд нашых вартавых парадку.

*РЭСТАЎРАЦЫЯ*

### КАЛОЖСКАЯ ЦАРКВА ДАЧАКАЛАСЯ

Апрача айчынных сродкаў, на рэстаўрацыю Каложскай (Барысаглебскай) царквы ў Гродне -- самай старажытнай з тых, што захаваліся на Беларусі, -- будзе выкарыстана замежная валюта. 35 тысяч французскіх франкаў выдзеліў для гэтай мэты Савет Еўропы. Перш чым прыняць такое рашэнне, аўтарытэтная міжнародная арганізацыя разгледзела звыш 120 прадстаўленых з 15 еўрапейскіх краін праектаў рэстаўрацыі найбольш вядомых помнікаў гісторыі і культуры, заахвоціўшы аналагічным чынам толькі 10. Паўплывала, відаць, тое, што храм пабудаваны яшчэ ў XII стагоддзі, а прадстаўлены беларусамі праект распрацаваны з дапамогай спецыялістаў з французскага горада Лімож, якія лічацца знаўцамі ў гэтай сферы.

Сродкі пералічаны на спецыяльны валютны рахунак, што адкрыты ў адным з мясцовых банкаў. Між іншым, грошы для рэстаўрацыі старажытнага храма паступаюць і ад рэгіянальных спонсараў.

# КАЛІ ПРЫЙДЗЕ ЧАС ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ ЛЮДЗЬМІ СТАЦЦА?

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

З мэтай захавання пераемнасці ў вучэбным працэсе меркавалася ажыццявіць перавод на беларускую мову 49 працэнтаў груп у дзіцячых дашкольных установах. Пераведзена на родную мову выкладанне прадметаў у некаторых прафесійных вучылішчах. Але ўсе дасягненні, зноў падкрэслю, -- гэта вынік тагачаснай нацыянальнай дзяржаўнай палітыкі. Калі ж да ўлады прыйшлі людзі, якія не разумеюць важнасці праблемы, змянілася і моўная палітыка, а гэта ў першую чаргу адбілася на школе.

**-- Але пакуль што ніхто, падаецца, не адмяніў ні Канстытуцыі, ні законаў аб мовах ці адукацыі.**

-- Фактычна так. Але тое, што было добра ўчора, сёння ігнаруецца і на практыцы не рэалізуецца. Чыноўнікі паралізаваны нейкім страхам. Кожны сябе ратуе як можа. Вось і мусяць усе, ад настаўніка і вышэй, прытрымлівацца цяперашняй палітыкі, якая зусім не спрые развіццю і ўмацаванню Бацькаўшчыны. Свядомасць беларусаў, на жаль, невысокая. Адсюль і разгубленасць бацькоў.

**-- Але пры такім становішчы менавіта настаўнікі павінны былі дапамагчы бацькам разабрацца ў сітуацыі.**

-- Нашы настаўнікі жывуць у тым жа самым грамадстве. Але больш за ўсё крыўдна і прыкра, што сярод бацькоў яны правялі вялікую агітацыю па пераводу дзяцей не на беларускую, а на рускую мову навучання. Тое, што было створана вельмі вялікімі намаганнямі на добрым узроўні, сёння можа быць знішчана. Дарэчы, згодна з праверкамі РАНА, паказчыкі якасці ведаў у дзяцей, што вучыліся па-беларуску, на некалькі працэнтаў вышэйшыя, чым у тых, якія вучыліся на рускай мове.

**-- Скажыце, калі ласка, настаўнікі працавалі па нейкаму афіцыйнаму загаду ці гэта ўсё ж была іх уласная ініцыятыва!**

-- Было распараджэнне Міністэрства адукацыі правесці ў школах апытанне бацькоў і высветліць, на якой мове яны жадаюць, каб вучыліся іх дзеці. Лагічна, што такое распараджэнне павінна было тычыцца толькі першакласнікаў. Але нашы настаўнікі пайшлі далей. Былі апытаны бацькі ўсіх класаў. Замест таго, каб удасканаліць выкладанне свайго прадмета па-беларуску, яны выбралі іншы шлях. Вось заява дзвюх маці, чые дзеці скончылі ў мінулым годзе першы клас: "...У школе N 216 вядзецца супрацьзаконная работа па агітацыі бацькоў напісаць заявы перавесці дзяцей з беларускай на рускую мову навучання. Па тэлефоне настаўнікі гавораць, што амаль увесь клас такія заявы ўжо напісаў. Але гэта не так. Завуч паказала нам толькі восем заяў. Такія дзеянні падтрымлівае ўвесь педагагічны калектыў. Настаўнікі нам паведамілі, што не будуць выкладаць па-беларуску ані матэматыку, ані фізіку, ані іншыя прадметы..." Такіх заяў шмат. Гэта і ёсць агульная схема, па якой настаўнікі вялі работу. Але ёсць толькі адзінкі сярод бацькоў, як гэтыя дзьве маці, якія збіраюцца звяртацца ў суд, каб абараніць сваю годнасць і свае правы.

**-- На мой асабісты погляд, дзіўна, што настаўнікі не разумеюць тых складанасцяў у педагагічным калектыве, калі побач з беларускімі класамі будуць і рускія.**

-- Так, утрымліваць два моўныя рэжымы будзе цяжка. Наогул гэта можна патлумачыць агульнай абыякавасцю ў грамадстве, калі спачатку робяць -- потым думаюць. І бацькі, і настаўнікі чамусьці не разумеюць, што дзяржаўная палітыка падмацавана[illegible] толькі загадамі і ўказам[illegible] але і фінансавымі выдаткамі, дарэчы, з іх жа кішэні. Але што яшчэ горш, разбураецца моўнае асяроддзе. Фактычна нашы дзеці не будуць вало[illegible] у аднолькавай меры добр[illegible] беларускай, ні рускай мовамі. У бліжэйшай будучыні нас чакае невуцтва і непісьменнасць, а прыкладаў таму і цяпер шмат.

**-- Відавочна, негатыўных прыкладаў шмат, але ёсць і станоўчыя. Напрыклад, у гуманітарны ліцэй пры адукацыйна-культурным цэнтры ў гэтым годзе конкурс быў 12 чалавек на месца.**

-- Так, гэта адзіная ўстанова, якая пакуль захавала статус беларускамоўнай. Вучыцца ў ёй лічыцца прэстыжным. Там высокі ўзровень навучання. У гэтым годзе з 33 выпускнікоў -- 31 паступілі ў прэстыжныя ВНУ Беларусі, а адзін нават і ў замежжы. Але я вельмі баюся, што, калі такая палітыка будзе працягвацца.

Калі ў нашым грамадстве чуеш пра нейкую роўнасць ці то моў, ці то магчымасцяў, чамусьці адразу ўзгадваецца вядомы выраз Джорджа Оруэла з яго знакамітага рамана "Скотны двор": "Усе жывёлы роўныя. Але адны з іх больш роўныя за іншых". Лёсам было наканавана, каб беларусы такую роўнасць выбралі для сябе і надалей. Але можна паглядзець на цяперашнія змены і з іншага боку: 5 524 першакласнікі (звыш 20 працэнтаў), а гэта азначае 11 048 бацькоў свядома выбралі для сваіх дзяцей мовай навучання беларускую. І гэта толькі ў Мінску. Але ёсць яшчэ другія, трэція і г.д. класы. Прайшло дзесяцігоддзе, і амаль выгадавалася пакаленне. У іх іншае ўяўленне аб дзяржаўнасці, на іх уся і надзея. Хочацца спадзявацца, яны нарэшце зразумеюць, што даўно прыйшоў час для беларусаў людзьмі не толькі звацца, але і стацца.

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

## "КЕНТ" – САВЕЦКІ РАЗВЕДЧЫК АНАТОЛЬ ГУРЭВІЧ

# ДОЎГАЕ ВЯРТАННЕ

**Заканчэнне. Пачатак у № 38.**

Святло ў камеры не выключалася ні на мінуту, яго рукі былі ў наручніках, днём за спіной, ноччу спераду. Здымалі іх толькі на час допытаў. З Брэндонка "Кент" быў перапраўлены ў Берлін, дзе ішло асноўнае следства па групе Шульцэ-Бойзена-Харнака, абвінавачаных у нанясенні надзвычайнага ўрону рэйху.

### У ЗАСЦЕНКАХ ГЕСТАПА

"Кент" цвёрда прытрымліваўся сваёй легенды -- афіцыйнай біяграфіі - і як уругвайскі грамадзянін запатрабаваў, каб яго неадкладна звязалі з консулам Уругвая. Фашысты нават не адказалі на гэта патрабаванне. Для пачатку яны хацелі дабіцца пацвярджэння, што Венсен Сьера і "Кент", рэзідэнт у Брусэлі і Марсэлі, адна і тая ж асоба (сваё сапраўднае імя разведчык наадрэз адмовіўся назваць).

Ведучы "Кента" на кручку, як вопытны рыбак выцягвае буйны ўлоў, следчы з гестапа прызапасіў для яго цяжкі ўдар. На адным з допытаў разведчыку былі прад'яўлены зашыфраваныя тэлеграмы Цэнтра з заданнямі на паездку ў Берлін і Прагу і справаздачы "Кента" аб іх выкананні. У першую хвіліну ён унутрана ўздрыгануў: хто перадаў, няўжо берлінскія сябры арыштаваны, калі і як гэта здарылася?! "Кент" быў пастаўлены практычна ў бязвыхаднае становішча. Адмаўляць відавочнае -- пазбавіць сябе апошняй магчымасці для манеўра. Прызнаць -- даць ворагу падставу святкаваць перамогу. Следчы прыводзіў усё новыя дакументальныя доказы дзейнасці, накіраванай супраць рэйха. За гэта ў ваенны час чакала пакаранне смерцю.

"Кент" вымушаны быў прызнацца, што з'яўляецца рэзідэнтам савецкай разведкі ў Брусэлі і Марсэлі. Ён ведаў, што разведчыкі заходніх краін, трапіўшы ў рукі контрразведкі, пачыналі даваць паказанні. Пры гэтым яны кіраваліся правілам: гаварыць тое, што ўжо вядома працаўніку ці пра што ён можа даведацца, утойваючы найбольш важнае. Даны вопыт спатрэбіўся "Кенту". Ён пацвердзіў тое, што ўжо было атрымана ад іншых арыштаваных, але змаўчаў аб сваіх крыніцах інфармацыі.

Неўзабаве "Кент" быў пераведзены ў парыжскую турму Фрэн і кінуты ў камеру смяротнікаў. Пакуль ён мучыўся наконт свайго лёсу, гестапа знайшло спосаб скарыстаць яго імя ва ўласных інтарэсах, пра што ён і не падазраваў. Схопленых за "Кентам" "Ота" пад дыктоўку эксперта зондэркаманды перадаў у Цэнтр, што "Кент" пасля поўнай акупацыі Францыі ў лістападзе 1942 года быў часова, да высвятлення асобы, затрыманы французскай паліцыяй, але затым вызвалены. Кантакт з ім аднолены, ён мае магчымасць працягваць працу на тэрыторыі Францыі. Падаць сігнал трывогі ў час работы рацыі разведчык не мог, таму што ён не быў прадугледжаны.

Гестапаўская пастка, пастаўленая для "Дырэктара" і "Кента", спрацавала. Была атрымана шыфратэлеграма "Дырэктара" на імя "Ота" для "Кента" з праграмай радыёсувязі з Цэнтрам, новым шыфрам, кодам, адрасамі і паролямі членаў французскай рэзідэнтуры "Заля", сувязь з якім была перарвана.

У далейшым дзве не звязаныя паміж сабой акалічнасці зрабілі значны ўплыў на становішча "Кента": уцёкі "Ота" з турмы і назначэнне шэфам зондэркаманды ў Парыжы Г.Панвіца.

Зондэркаманду ахапіў непадробны страх. Што, калі "Ота" змог наладзіць сувязь з Цэнтрам і пра ўсё паведаміў? У гэтым выпадку канец радыёгульні -- аперацыі па дэзінфармацыі Масквы. Але шэф каманды не выключаў, што "Ота" не зможа праінфармаваць "Дырэктара" ці той яму не паверыць пасля таго, як разведчык пабываў у гестапа. Цэнтр тым часам працягваў рэгулярна выходзіць на сувязь, і гестапаўцы падбадзёрыліся, лічачы, што іх гульня засталася неразгаданай.

Шэф зондэркаманды запатрабаваў прывезці "Кента" і паставіў перад ім нечаканую альтэрнатыву: ці той выканае патрабаванні гестапа, ці пакіне турму Фрэн толькі нагамі наперад.

Ён даў разведчыку дакументы, з які[illegible]ю відаць, што "Дырэктар" [illegible]учыў яму адказнае заданне і раскрыў закансерваваную разведсетку. "Кенту" трэба было зрабіць пакутніцкі выбар, пры якім ён не павінен быў сказаць "так", а "не" магло азначаць [illegible]бель стаўшых вядомымі ге[illegible]а савецкіх разведчыкаў. Нечакана для гестапаўца "Кент" заявіў,што можа сустрэцца з "Заля", які, як відаць з данясенняў, патрабаваў асабістага спаткання з ім.

На сустрэчы з "Заля", якая праходзіла пад кантролем доктара Ленца, эксперта і члена зондэркаманды, "Кент" не мог сказаць многага, але змог папярэдзіць яго, каб ён і людзі Лежандра ("Віктара") перайшлі на нелегальнае становішча. На іх палявала гестапа. Тыя, хто паслухаўся рэкамендацый "Кента", засталіся жывымі.

"Кенту" ўдалося зменшыць і паток дэзінфармацыі. Ён пераканаў Панвіца, што ў Масквы маглі быць іншыя крыніцы інфармацыі, з дапамогай якіх можна ўстанавіць ілжывасць і накіраванасць вестак, што паступаюць нібыта ад савецкага разведчыка.

Калі радыёгульня так бязглузда праваліцца, падумаў Панвіц, яму не мінаваць Усходняга фронту ці чаго-небудзь горшага. І ён стаў глядзець скрозь пальцы на дзеянні "Кента".

"Дырэктар", ведаючы з ліпеня 1943 года аб каварнай гульні гестапа і абвера, паварнуў яе супраць іх.

"Кент" адразу заўважыў перамену ў паводзінах Панвіца. Разведчык стаў больш пільна прыглядацца да яго. Гестапавец абучаўся на тэалагічным факультэце і рыхтаваўся стаць пастарам, але фашызм крута перамяніў яго лёс. Знаёмства з уплывовымі нацыстамі дапамагло зрабіць кар'еру ў гестапа, за межамі якога ён лічыўся "самым інтэлігентным гангстэрам трэцяга рэйха". Панвіц быў пераведзены ў Парыж з пражскага аддзялення СС. У Чэха-Славакіі гаўптштурмфюрэр кіраваў паўленнем і ліквідацыяй парашутыстаў, якія закідваліся з Лондана і павінны былі знішчыць Гейдрыха. 10 ліпеня 1942 года ён учыніў крывавую расправу над Лідзіцы, чэха-славацкай вёсачкай, сцёртай з твару зямлі ў адплату за замах на гітлераўскага намесніка.

Даведаўшыся пра гэта, разведчык вырашыў: люты фашыст і будзе біцца да канца. І ён пачаў, здавалася, безнадзейную справу -- пераконваць і схіляць на свой бок Панвіца. Ход ваенных падзей яўна памагаў разведчыку.

Здавалася, Панвіц чакаў падобнага. "Кент" прыцягнуў на свой бок і завербаваў таксама радыста Панвіца -- аўстрыйца Стлука. Яму цяжарам была служба ў фашыстаў, і ён шукаў выпадку парваць з імі. Па просьбе "Кента" і без ведама Панвіца ён адправіў у Цэнтр некалькі данясенняў разведчыка. Сакратарша Панвіца -- Э.Кемпа -- неяк заявіла, што ні пры якіх абставінах не хацела б апынуцца ў Сібіры. Але як толькі яе шэф згадзіўся перайсці на бок СССР, для яе ўжо не было іншага шляху.

### ВЯРТАННЕ

Панвіц паведаміў "Кенту", што атрымаў загад адправіцца ў аўстрыйскія Альпы, дзе былі закладзены асновы "Вэрвольфэ" -- дыверсійна-падрыўных фарміраванняў.

Шэф зондэркаманды, Стлука, Кемпа, а таксама "Кент", маючы пры сабе рацыю, асабістую зброю, з дакументамі і грашыма пранікілі ў намечаны раён.

Абставіны прадказвалі, што на аўстрыйска-швейцарскай мяжы варта чакаць з найбольшай верагоднасцю з'яўлення войск саюзнікаў, і на гэты выпадак "Кент" падрыхтаваў адпаведную легенду. Хутка "Кент" і немцы, што былі пры ім, былі захоплены ў палон французскімі падраздзяленнямі. Разведчык прадставіўся французскаму афіцэру як маёр Савецкай Арміі, які на тэрыторыі Германіі садзейнічаў уцёкам савецкіх ваеннапалонных. Прысутныя немцы -- яго памочнікі.

7 чэрвеня 1945 года "Кент" і завербаваныя ім гестапаўцы прызямліліся на маскоўскім аэрадроме. Іх чакала група афіцэраў НКУС на чале з генералам. Спрытны маёр, назваўшы "Кента" па імені, адхіліў разведчыка ўбок, нягучна сказаўшы яму, што ён адразу ж будзе прыняты высокім начальствам для асабістага даклада. Але нечакана "Кент" пачуў, што аўтамашына з ім накіроўваецца на Лубянку.

Неўзабаве ў кабінеце Абакумава, у прысутнасці шматлікай бліскучай світы, ён пачуў жудасныя, неверагодныя абвінавачванні: яго лічылі замежным агентам, які прыбыў у Маскву са спецыяльным заданнем.

Некаму было выгадна зрабіць з "Кента" ворага і здрадніка, прыпісаўшы сабе заслугі ў атрыманні каштоўнай інфармацыі і выкрыцці работнікаў рэзідэнтуры ГРУ. Знішчэнне "Кента" як разведчыка, як асобы ажыццяўлялася з гэтага дня метадычна і на працягу доўгіх гадоў, а яго вяртанне дадому і спатканне з блізкімі зацягнулася на дзесяцігоддзі.

Гавораць, боль, як і радасць, на ўсіх адзін. Што ж, Гісторыя заўсёды справядлівая. У рэшце рэшт менавіта яна і толькі яна расстаўляе акцэнты, устанаўлівае імёны сапраўдных герояў, вяртае памяць аб іх.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ.**

# "ТО МАЙГО СЭРЦА ЛЮБАЯ АЙЧЫНА..."



(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Лунаў -- у колер дню -- блакітны сцяг з залатымі зоркамі, і пазіраў на гасцей і людзей навагрaдскіх чорны анёл з вагамі: барэльефная выява на камені-валуне.

А перад гэтым урачыстым дзействам тут, каля яшчэ схаванага пад палатном герба, якраз насупраць помніка Адаму Міцкевічу, з'явілася група -- нібыта яе анёл-ахоўнік горада спецыяльна даслаў з якіх мінулых часоў. І плыла мелодыя-чар, гукі з XVI стагоддзя, у поўным суладдзі і сугуччы з гэтай раніцай, з роздумнай танальнасцю наваколля. Прэлюд свята. Гэта выконваў творы з музычнага альбома "Беларускія старажытныя мелодыі" XVI--XVIII стагоддзяў ансамбль "Контрданс". Выкладчыкі Баранавіцкай музычнай школы -- у фацэтных чорных плашчах-накідках, у чорных берэтах з белымі плюмажамі -- на фоне раззалочана-зялёных дрэў -- нібыта сышлі са старажытнай карціны. Кіраўнік ансамбля -- Андрэй Канстанцінаў; Аляксандр Бондар -- флейта-альт; Юры Семашкевіч -- гітара; Валерыя Нясмачная -- флейта-тэнар і клавесін; Наталля Бабкова -- флейта-бас; Андрэй Дзятлёнак -- ударныя. У канцэртных выступленнях прымае ўдзел і вядучая -- Галіна Старкова, але тут яна стаяла сярод слухачоў і перажывала, што сыравата, і інструменты гучаць не так, як трэба. Гэта заўсёдная пакута спецыялістаў -- слухачы ж проста знямелі: агучанае хараство.

А потым былі адпаведныя падзеі прамовы. Як то заведзена, людзі ўладныя і тыя, што каля іх, меліся даводзіць народу словы афіцыйныя і ўрачыстыя. Акрамя мясцовых улад: старшыні гарвыканкома Г.Бакі, яго намесніка К.Аляшкевіча, загадчыкаў аддзелаў В.Лаўрэшчука і І.Грыня, браў удзел у свяце і намеснік міністра культуры І. Карэнда, і шмат іншых ушанаваных і шаноўных гасцей і гаспадароў.

А ўрэшце дабрачынныя ўдзельнікі масовак -- народ -- падаліся на замак, дзе адбывалася маляўнічае відовішча: хлопцы-зухі, з конна-спартыўнай сялянскай гаспадаркі на конях не абы-якога, а гановерскага і літоўскага заводу, паказвалі свой спрыт. За тых коней, між іншым, прапаноўваюць ад 150 да 300 тысяч долараў знаўцы-бізнесмены з Заходняй Еўропы, а збяднелая, мабыць, Ратамка зусім не супраць аб'ядназца з моцнай маладой гаспадаркай. Але гэта, як кажуць, рэпліка ўбок. На плошчы ж тым часам на імправізаванай сцэне граў гарадзенскі духавы аркестр і "танчылі" мазуркі і паланезы ўдзельнікі ансамбля "Зямля Эльблонг" з Польшчы. Гасцінныя ж беларусы, саступіўшы самае выйгрышнае месца, туліліся каля елачак, што выцягнуліся вакол абавязковага помніка Леніну ў цэнтры плошчы. Праўда, на настрой хлопцаў з Валеўкі гэта не ўплывала. Яны "рэзалі" на сваіх гармоніках, гахалі ў бубен і спявалі -- здаецца, так, каб і ў іх вёсцы было чутно. Шчыравалі -- ажно іх са[illegible]нныя капелюшы ходырам хадзілі. А [illegible]атэчны такі, ва ўзросце дзядзечка вадзіў смычком па скрыпцы, хітравата пасміхаючыся ў вусы: маўляў, я яшчэ не здамся... Затое побач прыгажуні з Кашалёва, кінуўшы марную н[illegible]дзею "пераспяваць" валеўскіх к[illegible]раў, ціхамірна сядзелі сярод сваіх покрывак і вышыванак -- і дзе былі мастакі і фотамайстры? Недзе былі. Прасіліся ў кадр і цацкі майстрых з Пятрэвічаў, але ж мой фотаапарат застаўся ўдома. На жаль.

...А тым часам на мяне глядзеў са штандара чорны анёл -- адзіны ў еўрапейскай геральдыцы архангел Міхаіл чорнага колеру. Пра тое наконадні змястоўна тлумачыў на "Навагрaдскіх чытаннях" спецыяліст па геральдыцы А.Цітоў. А разам з ім вёў гаворку дацэнт Гарадзенскага універсітэта Аляксандр Краўцэвіч, які звярнуў на сябе ўвагу апошнім часам сваімі навуковымі працамі і літаратурнымі выступленнямі: тут ён распавядаў пра Навагрaдак у ранняй гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Пра Навагрaдак у летапісных крыніцах вёў размову вядомы гісторык М.Ермаловіч, пра гісторыю Навагрaдчыны ў кнізе "Памяць" -- дырэктар Інстытута гісторыі М.Касцюк, пра ідэю беларускай дзяржаўнасці -- знаны даследчык Л.Лыч, пра гістарычную аргументаванасць назвы горада "Навагрaдак", а не "Навагрудак" -- мовазнаўца А.Булыка, дзяліўся вынікамі сваіх даследаванняў В.Чамярыцкі, выхадзец з Навагрaдка, супрацоўнік Інстытута літаратуры АН Беларусі (з ягоных прац у краязнаўчым музеі склаўся ўжо асабісты фонд) і г.д.



Пра гісторыка-краязнаўчы музей як шматмэтавую ўстанову вяла гаворку дырэктар Краязнаўчага музея Т.Вяршыцкая. Дарэчы, менавіта гэтаму музею належыць ідэя наладжвання і арганізацыя "Навагрaдскіх чытанняў". Зараз праводзіліся 4-я "Чытанні". На іх былі прадстаўлены і новыя выданні, якія з'явіліся напярэдадні свята: брашура-даведнік супрацоўніка музея П.Гайбы "Навагрудак. Гады і падзеі" і кніга прозы пісьменніцы А.Сямёнавай "Святло загадкі", прысвечаная землякам-навагрaдцам.

Прапанова ж доктара філасофскіх навук У.Конана наступныя "Чытанні" прысвяціць літаратурнай Навагрaдчыне -- была сустрэтая з імпэтам і падтрыманая.

Адным словам, быў падведзены, так бы мовіць, і тэарэтычны грунт. Было свята, былі ігрыскі. Ці ўдаліся? Каму як падалося...

Хаця ніхто, мабыць, не мог не заўважыць, што шыльдачкі на мурах-вежах абвяшчалі не пра тое, што ідзе рэстаўрацыя, а папярэджвалі аб небяспецы: муры абвальваюцца. І незразумела было, чаму так няўклюдна, безгустоўна "ўлезлі" на Замкавую гару электрычныя слупы. Асвятленне? Дык усё ж гэта робіцца інакш: маглі б у тых жа суседзяў-палякаў вопыту ўзяць. Дарэчы, на іх, падобна, адна надзея наконт кансервацыі вежаў. Аднак...

А над усім -- былі тыя непаўторныя флюіды, водар зямлі, дзе наша гісторыя відавочна аказвае сябе. Дзе словы Паэта набываюць асобы сэнс.

**Я маю край, радзіму дум сваіх...**
**То майго сэрца любая айчына.**

**Зміцер ЛАСТАВЕЦ.**



**НА ЗДЫМКАХ: старыя пабудовы Навагрaдка.**

**ХРОНІКА**

**БЕЛАРУСАЗНАЎЧАГА ЖЫЦЦЯ**

## СКАРЫНАЎСКІЯ ЧЫТАННІ Ў НАВАПОЛАЦКУ

У Полацкім дзяржаўным універсітэце, які знаходзіцца ў Наваполацку, адбыліся Скарынаўскія (Полацкія) чытанні, прысвечаныя тэме "Полацкая зямля як соцкультурная прастора ўзнікнення і развіцця беларускага этнасу і нацыянальнай дзяржаўнасці". Ладзілі гэты міжнародны форум, апрача гаспадароў, Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Францішка Скарыны і Полацкі гісторыка-культурны запаведнік.

Уступным словам адкрыў чытанні старшыня аргкамітэта прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Адам Мальдзіс. Затым удзельнікаў прывітаў рэктар універсітэта прафесар Эрнст Бабенка. З дакладамі на пленарным пасяджэнні выступілі доктар філасофскіх навук Уладзімір Конан ("Полацка-крыўская тэорыя беларускай дзяржаўнасці і культуры"), акадэмік Акадэміі гуманітарных навук Расіі старшыня Санкт-Пецярбургскай суполкі беларусістаў Аляксандр Мыльнікаў ("Зямля--дзяржава--этнас: Ф.Скарына ў кантэксце этнаграфічных уяўленняў ранняга Новага часу"), загадчык кафедры Варшаўскага універсітэта віцэ-прэзідэнт МАБ Аляксандр Баршчэўскі ("Культурнае жыццё Полаччыны ў асвятленні часопіса "Месенчнік Полоцкі"), акадэмік Міжнароднай акадэміі тэхнічнай адукацыі Вадзім Салееў ("Полацкая зямля як крыніца ўсходнеславянскай і беларускай культуры"). Акадэмік Міжнароднай Акадэміі навук Еўразіі дырэктар Беларускага інстытута навукі і мастацтва (Нью-Йорк) Вітаўт Кіпель расказаў пра тых выкладчыкаў Полацкай езуіцкай акадэміі, якія потым у ЗША сталі арганізатарамі свецкай адукацыі.

З выступленняў на чатырох секцыйных пасяджэннях трэба асабліва выдзеліць даклад загадчыка аддзела Інстытута гісторыі АН Беларусі Георгія Галенчанкі, які знайшоў у Познані арыгінал Граматы караля Жыгімонта І. У ёй перад прозвішчам Скарыны напісана "эгрэгіі", г.зн. славуты, а не Георгій, як гэта памылкова ўнёс перапісчык у адну з копій дакумента (памылка перапісчыка потым прывяла да палемікі пра імя беларускага першадрукара). Чэшская беларусістка Францішка Сокалава даслала на імя арганізатараў чытанняў даклад пра сваю знаходку ў Славянскай бібліятэцы (Прага) -- невядомую раней рукапісную копію "Апостала" Ф.Скарыны 1525 года.

Удзельнікі чытанняў рашылі зрабіць іх рэгулярнымі, а таксама хадайнічаць пра наданне Полацкаму універсітэту імя Прападобнай Ефрасінні Полацкай.

## ДНІ ЕЎРАПЕЙСКАЙ СПАДЧЫНЫ

Ва ўсіх краінах, што ўваходзяць у Савет Еўропы, у тым ліку і ў Беларусі, у верасні прайшлі Дні культурнай спадчыны. Іх падсумаванне адбылося на "круглым стале", месцам якога стаў Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Францішка Скарыны. Пачалося пасяджэнне з кароткіх дакладаў прадстаўнікоў трох устаноў-арганізатараў круглага стала: дырэктара Цэнтра Адама Мальдзіса, кіраўнікоў Дзяржаўнай інспекцыі па ахове помнікаў гісторыі і культуры Дзмітрыя Бубноўскага і "Эўрафорума" Ігара Бабкова. Яны ахарактарызавалі сучасны стан і перспектывы захавання і памнажэння беларускай матэрыяльнай і культурнай спадчыны, шляхі па яе пашырэнню ў Еўропе і ў свеце.

У зацікаўленай дыскусіі слова бралі намеснік старшыні Камісіі па культуры, адукацыі і захаванню спадчыны Вярхоўнага Савета Беларусі Алег Трусаў, старшыня Згуртавання беларусаў свету Ганна Сурмач, дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Ганна Алейнік, член-карэспандэнт АН Беларусі Міхась Мушынскі, дырэктар Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі Міхал Піліпенка, дактары навук Анатоль Грыцкевіч, Уладзімір Конан і Георгій Штыхаў, іншыя навукоўцы і грамадскія дзеячы. На пасяджэнні прысутнічалі прадстаўнікі культурных інстытуцый еўрапейскіх краін, якія дзейнічаюць у Мінску, -- Брытарскага Савета, Інстытута імя Гётэ, Інстытута польскай культуры.

Удзельнікі "круглага стала" прынялі канкрэтныя рэкамендацыі. Было прадугледжана стварэнне спецыяльнага камітэта ці камісіі, які займецца штогодна правядзеннем такіх Дзён у будучыні.

**Наталля ГОЛУБ.**




Сяргей ПЯСЕЦКІ

# "КАХАНАК ВЯЛІКАЙ МЯДЗВЕДЗІЦЫ"

Увайшлі ў лес. Пачалі прадзірацца па вузкай сьцежцы сярод густа парослых ялінак. Затым выбраліся на шырокую паляну і сярэдзінай падаліся наперад. Узьбіліся на нейкую шырокую дарогу, разьбітую коламі вазоў. Пад нагамі загрукаталі дошкі. "Мост", -- падумаў я, стараючыся ісьці ціхэй.

Нехта, сьпяшаючыся, мінуў мяне і зьнік у цемры. Гэта быў Шчур. Лорд на хвіліну затрымаўся, узяў мяне за руку. Нахіліўшы блізка твар, ён шапнуў: "Зараз". Крочылі адзін каля другога. Нечаканна зь левага боку ад дарогі ўспыхнуў электрычны ліхтарык. Бліскавічна сьлізгануў сьвятлом па доўгай вужацы з хлопцаў, якія ішлі сярэдзінай дарогі. У той жа момант пачуўся нялюдскі крык:

-- Сто-ой... Страляю! Сто-о-ой!..

Ліхтарык згас. Бухнулі два рэвальверныя стрэлы, пасьля яшчэ два. Вакол усё завіравала. Разьнесьліся крыкі. Затрашчалі прыдарожныя кусты. Трэск стаяў па лесе. Мы з Лордам адскочылі налева, туды, адкуль прагучалі стрэлы і вокліч. А хлопцы джгалі справа ад дарогі.

Праз некалькі хвілін усё заціхла. Мы падняліся. Паблізу раздаўся сьвіст. Лорд адказаў. Да нас падышоў Шчур. Гэта ён страляў і крычаў. Пачуўся яго ціхі сьмех.

-- Ну, як там? -- запытаўся Шчур у Лорда.

-- Клёва! Шухер як трэба! Агранда -- "першы" клас!

Мы шчасьліва перайшлі граніцу. Назаўтра Болек Камета павёз скуркі ў Вільню. Там іх можна было прадаць значна даражэй, чым у мястэчку. Я, Лорд, Шчур і Мамант аддалі яму свае "долі". Усіх скурак, разам з ягонымі, атрымалася 1 840 штук.

-- Каб не напэцкаў нам! -- прамовіў Шчур.

-- Ён ашукае? -- засьмяяўся Лорд. -- Ніколі!.. Яго адсюль, з граніцы, мільёнамі не зманіш!

Камета вярнуўся праз два дні. Ён прадаў скуркі за 2 024 даляры. Па 1 даляру і 10 цэнтаў за скурку. Мы адлічылі гэтыя 24 даляры Камеце за дарогу, а рэшту, 2 000, падзялілі між сабой. Па 400 даляраў на чалавека.

Пра агранду ведала толькі наша пяцёрка. Астатнія хлопцы думалі, што нас сапраўды разьбілі. Некаторыя нават сьцьвярджалі, што гэта работа Макарава. А Ванька Бальшавік дык бажыўся, што бачыў у сьвятле ліхтарыка ягоную рыжую бараду і шрам на левай шчацэ. Усе шчасьліва вярнуліся дахаты. Толькі тавар купцу не вярнулі: "пагублялі, пакідалі", зрэшты, увогуле не тлумачылі яму нічога.

## 13

Зноў лёг сьнег і ўжо затрымаўся. Надышла зіма -- суровая, завейная і марозная. Граніца ўмацавалася, і тоўстай коўдрай з халоднага пуху накрылася зямля да доўгага сну.

Лягла белая сцежка. Скончыўся залаты сезон. Хлопцы забавіліся, пілі, гналі самагонку, заляцаліся да дзяўчат. Гэта выглядала так, нібыта кожны імкнуўся як мага хутчэй прасадзіць заробленыя грошы.

Асабліва посьпехам карысталася Гінта. Наш салон быў заўсёды поўны, дзьверы проста не зачыняліся. Перамытнікі купаліся ў гарэлцы... Болек Камета знаходзіўся ў сваёй стыхіі. Піў, піў, піў. Невядома калі адпачываў. Фэлік Маруда хоць падтрымліваў яму кампанію, але піў меней, увесь час заняты ежай. Антось іграў без перапынку. Камета прывёз новы, вельмі дарагі гармонік, аддаў яму ў падарунак. Вось чаму гарманіст іграў, рэзаў, сёк і ніліў на ім, як той закляты.

Неяк увечары я сустрэўся на рынку зь Ёськам Гусярам. Ён весела прывітаўся.

-- Куды ідзеш? -- запытаўся.

-- Дахаты.

-- Яшчэ рана. Зойдзем да мяне. Пагамонім сабе трохі. Раскажу адну цікавую показку.

Я хвіліну вагаўся.

-- Пра Альфрэда Алінчука табе раскажу! -- дадаў Ёська.

Я пайшоў за ім.

Жонка чакала Ёську на вячэру. Мы селі за стол. Гусяр звярнуўся да яе:

-- Ідзі спаць, Дора! Мы тут крыху паразмаўляем.

Пасьля, як яна выйшла з пакоя, Ёська сур'ёзна сказаў:

-- Сьцеражыцеся! Альфрэд хоча вас засыпаць!

-- Як гэта засыпаць? Данесьці ў паліцыю?..

Гусяр усьміхнуўся.

-- Не... Ён хоча вас пакласьці па-сапраўднаму... На тым баку...

-- Адкуль гэта ведаеш?

-- Ён распытваў, куды ходзіце... Дзе мяліна групы Лорда.

-- Ці можа ён гэта зрабіць?

-- Ён?.. Ты яго дрэнна в[illegible]еш? Ён на любую брыдоту [illegible]ы!

-- Аж ня верыцца!.. [illegible] жа фартовец!..

Ёська засьмяяўся.

-- Фартовец!.. Гэта апошняя сука!.. Думаеш, ён за граніцай хаваецца?.. Ён жа на ша[illegible]ка, на дурніцу, на зыхер х[illegible]ь!

-- Аднак жа з машынамі ходзяць?

-- Дык што з таго? Яны бяруць пушкі, бо баяцца мужыкоў. А пра вашу групу Альфрэд распытваў з "понтам". Нібыта ён хоча знайсьці сабе другі пункт. А ён хоча вас закласьці... Вы глядзіце... Я маю адно падазрэньне...

Гусяр прыпыніўся.

-- Што за падазрэньне?

-- Нікому гэтага не раскажаш?

-- Не.

-- Пад хэйрэм*?

-- Так.

-- Ён засыпаў групу Цьвіка, бо хацеў адбіць у яго Андзю Завітчанку.

-- Што ты кажаш?

-- Пра гэта я ня ведаю дакладна. Ведаю толькі, што ён сустракаецца ў Мінску з падпольнікам Макаравым. Там яны разам бавяць час. Макараў дапамагае Алінчукам хадзіць з кантрабандай, а яны даюць яму работу... Закладваюць хлопцаў!..

Я ўстрывожыўся. Хвіліну падумаў, а потым вымавіў:

-- Ведаеш што, Ёсік? Гэта вельмі важная справа! Я павінен пра гэта сказаць Сашку і Лорду.

-- Цяпер яшчэ нельга! Ты ж даў слова... Ня можна. Я больш даведаюся, і тады вы разьлічыцеся з Альфрэдам... Зараз нельга... Скажы толькі Лорду, каб быў больш уважлівы на паваротах і зьмяніў мяліну. Можаш сказаць, што ад некага чуў, што Альфрэд распытвае паўстанцаў, куды вы ходзіце. Хай папярэдзіць хлопцаў, каб нікому пра пункт не гаварылі... Альфрэд хоча вас засыпаць, як і Цьвіка...

Позна ўначы я вяртаўся дахаты з рознымі планамі ў галаве. Думаў, як зрабіць? Баяўся, каб не адлупіць хлопцы ад мяліны Лёні. Ня меў бы тады магчымасьці сустракацца зь ёю.

Раніцай пайшоў да Лорда. Застаў яго ў хаце. Пасьля ўчарашняй гулянкі ў Болека балела галава. Ён выказаў жаданьне палепшыць свой настрой.

-- Ведаеш што, Болек, -- зьвярнуўся да яго. -- Мы павінны трымаць мяліну ў таямніцы. Альфрэд распытвае, дзе наш пункт у Саветах. Хоча нас лягнуць!

-- Адкуль ты гэта ўзяў?

-- Ведаю ад аднаго хлопца.

-- Каб яго халера, з тым Альфрэдам!.. Гэта сука!..

-- Мы павінны быць асьцярожнымі!

-- Так... Зараз будзем больш уважлівымі. Не дачакаецца ён гэтага! Не пакладзе нам групу! Сама больш аднаго хлопца цапнуць... Ты гэта ведаеш дакладна?

-- Не. Толькі так мяркую.

Я не хацеў залішне хваляваць Лорда, каб той не зьмяніў пункт.

-- Трэба папярэдзіць хлопцаў, каб нікому не казалі, дзе мы спыняемся ў Саветах, -- вымавіў Лорд.

-- Сапраўды. Зрабі так. Няхай пільнуюцца, языкі за зубамі -- і шлюс! Урэшце ніхто ня ведае прозьвішча Бамбіны і ня здолее дакладна вызначыць, дзе знаходзіцца яе хутар.

Мы зьмянілі тэму размовы. А крыху пачакаўшы, пайшлі піць да Гінты.

Праз два дні мы ўпершыню выбраліся на працу па белай сьцежцы. Групу, як звычайна, вёў Лорд. Тавар пільнаваў Лёўка. Тавар быў танны: падэшвы, жаночыя свэтры, ваўняныя шалі... на зімовы сезон. Акрамя мяне, Лорда і Лёвы ішлі: Мамант, Шчур, Болек Камета, Ванька Бальшавік, Фэлік Маруда. Усяго дзевяць чалавек. Пятрусь Філосаф працягваў хварэць, а Алігант ня вылечыўся яшчэ ад раны. Цяпер мы больш асьцярожныя. Не ідзём палямі да будынкаў хутара і агародных дрэў, а ўскрайкам гая набліжаемся да выездажнай саньмі дарогі, якой і разлічваем -- каб не пакінуць за сабой сьлядоў -- дабрацца да хутара.

Выйшлі мы ў дарогу з Букраўкі, з адрыны на канцы мястэчка, куды днём былі прывезены ношкі. У дарогу вырушылі параней: як толькі пачало зьмяркацца. Рабілі гэтак з тым разьлікам, што зялёнкі не чакаюць такога раньняга выхаду перамытнікаў.

Каля другой гадзіны ночы дабраліся да хутара Бамбіны.

Лорд затрымлівае групу. Падыходзіць да мяне.

-- Можа, ты хочаш пайсьці першым? Паглядзіш, ці ўсё там у парадку на мяліне, у стадоле і на агародзе... Агледзіш увесь хутар. Запытай Бамбіну, ці не круціўся тут хто-небудзь днём? А калі ўсё будзе нармальна, выйдзі на дарогу і зрабі ліхтарыкам у паветры тры вялікія кругі... Хочаш ісьці першым?

-- Добра. Я пайду.

-- Пакінь ношку. Табе будзе лягчэй.

Скідваю з плячэй ношку і выходжу на дарогу. Да хутара прыкладна 300 метраў. Крочу хутка і весела. Без ношкі так лёгка рухацца. Гляджу ўлева на Вялікую Мядзьведзіцу і ўсьміхаюся. Паўтараю імёны асобных зорак: Эва, Ірына, Зося, Мар'я, Гэлена, Лідзія і Леаніда... Лёня. Пасьля паўтараю некалькі разоў: Лёня і сьмяюся. "Напэўна, яна цяпер сьпіць і ня сьніць нават, што я зараз прыйду!"

Прысьпешваю крок. Брама і фортка замкнутыя. Пералажу праз плот на дзядзінец. З глыбіні падворка да мяне кідаецца вялізны сабака.

-- Нэрон, Нэрон! -- клічу сабаку.

Падлятае з падскокамі і з радасным візгатам падымаецца на заднія лапы, стараючыся лізнуць мяне ў твар. Адпіхваю яго ад сябе.

Пацюху стукаю ў вакно. Праз хвіліну за шклом бачу белую пляму твара.

-- Хто там?

-- Я.

-- Уладак?

-- Так. Адчыні, Лёня.

-- Ужо, ужо!

Трашчаць засаўкі, і я ўваходжу ў цёмную хату. Лёня толькі што паднялася з ложка. Горача цалу[illegible] мяне.

-- Які ть[illegible]одны!.. Хлопцы прыйшлі?..

-- Я сам прыйшоў.

-- Са-ам?..

-- Так.

-- Праўда? Чаго?

-- Засумаваў па табе і гайда ў дарогу!

Яна сь[illegible]цца, а пасьля сур'ёзна п[illegible]цца:

-- Ня можа быць! Хлусіш!

Я расказаў ёй пра тое, што нас хвалюе. Запэўніла мяне, што на хутары ўсё ў парадку. Аднак я абышоў падворак і сад, агледзеў стадолу і толькі тады выйшаў на дарогу.

Выймаю з кішэні ліхтарык, уключаю яго і раблю перад сабой тры вялікія кругі.

Чакаю.

Неўзабаве на сьнежнай белі дарогі паказваюцца адзін за другім мае сябры. Упускаю іх на падворак і замыкаю брамку на засаўку.

Хлопцы пайшлі ў гумно, а я зь Лёўкам у памяшканьне.

Лёня ўжо прыбралася. Круціцца па хаце. Запальвае ў печы. Падрыхтоўвае мне яду, бо хлопцы і Лёва пайшлі спаць.

Пазьней, калі мы леглі, Лёня сказала:

-- Ведаеш што, Уладак?.. Я думала пра адну рэч: заставайся са мной назаўсёды!

-- Як гэта?

-- Я ўсё абдумала... Зачыню пункт... Досыць мне ўжо гэтага... Грошай хопіць, і табе пад дастаткам будзе. Зажывем разам... Для цябе вырабіць дакументы... Ёсьць знаёмыя ў Валвыканкаме і Заслаўі... Гэта можна зрабіць...

-- Не... Я не хачу...

-- Ты не кахаеш мяне?.. Так?..

-- Гэта ня тое. Але я хачу жыць у сябе... за граніцай...

Лёня доўга пераконвала мяне, каб я згадзіўся зь яе прапановай. Прасіла, падмацоўвала рознымі аргументамі. Нарэшце я адказаў, што паразважаю над гэтым. Аднак сам ведаў, што ніколі такога ня будзе... Тут я засумаваў бы да сьмерці. А магчыма, і Лёня абрыдзела б мне. Але не сказаў ёй таго.

## 14

Каляды і Новы год прайшлі для нас вельмі весела. А пасьля сьвят мала ў каго з хлопцаў нешта засталося ў кішэні.

У студзені хлопцы зноў пачалі хадзіць у дарогу. Іх гнала бяда. Ішлі, хоць дарогі былі надзвычай цяжкія, хоць панавалі завеі, а па лясах і палях гойсалі ваўкі. Купцы цяпер давалі дрэнныя тавар: яны не хацелі рызыкаваць, ведалі, што дарогі вельмі небясьпечныя і што марнатраўныя хлопцы могуць спрытна наладзіць агранду. Групы ішлі зрэдку, былі невялікія. У той жа час хлопцы часьцей хадзілі на ўласную руку. Насілі сьпірт, які карыстаўся вялікім попытам у Саветах і які лёгка было збываць.

На сьвята Трох каралёў да мяне прыйшоў Лорд і прамовіў:

-- Прыслала Фэля...

Я зьдзівіўся.

-- Чаго яна хоча?

-- Запрашае заўтра да сябе на вечарынку.

-- Сашкі ж няма дома! Паехаў у Стоўбцы.

-- Гэта нічога. Яна арганізоўвае малую вечарынку. Будзе некалькі дзяўчат і пару хлопцаў.

-- А ты пойдзеш?

-- Так.

-- Добра. Тады я таксама пайду.

Назаўтра я апрануўся вельмі элегантна і разам з Лордам пайшоў да Фэлі. Было сем гадзін вечара. Засталі ўсіх у зборы. Заўважыў, што Фэля так падабрала хлопцаў і дзяўчат, каб не было гранды і каб можна было "прыстойна" пазабаўляцца.

Акрамя мяне з Лордам са знаёмых былі: Пятрусь Філосаф, Юлік Вар'ят, Алігант. Апроч таго, убачыў братоў Фабіньскіх -- Караля і Зыгмунта. Яны былі далёкімі сваякамі Вэблінаў і нядаўна прыехалі зь Вільні, таму трымаліся ад нас на пэўнай дыстанцыі і ганарыста. Зь дзяўчат былі: Фэля, Бэлка, Андзя Салдат, Маня Дзюньдзя. Зь імі прыйшла Лютка Жубік, якая замяніла ў групе Бэлкі Маньку Пудзель, што папалася ў Саветах і зараз сядзела ў мінскім астрозе. Гэта была мясістая дзеўка, якая пры кожным кроку трэсла сваім багатым целам, што і абуджала ў галовах хлопцаў розныя эратычныя згадкі... Прыйшла яшчэ кузынка Фэлі -- маладзенькая шаснаццацігадовая дзяўчына, прыемная танклявая бляндзінка. Яе твар вельмі ўпрыгожвалі вялікія вочы. Называлася Зосяй.

Калі мы ўвайшлі ў памяшканьне, моладзь ужо забаўлялася. На камодзе стаяў вялікі грамафон і, зьзяючы нікелем агромністай трубы, іграў вальс. Пасярод хаты круціліся дзьве пары: Алігант танцаваў з Зосяй, а Караль Фабіньскі з Фэляй.

Па чарзе прывіталіся з прысутнымі. Пазнаёміліся з тымі, каго ня ведалі. Зыгмунт Фабіньскі, нібы робячы ласку, нядбала падаў мне далонь -- мяккую і малую, як у жанчыны.

Надзьмуўшы вусны, працягла вымавіў:

-- Фа-абіньскі...

Ён мне не спадабаўся. Не люблю выпеставаных лялек. У адказ так моцна пацісьнуў яму руку, што той амаль ня войкнуў. Я назваўся:

-- Ла-а-бровіч!

Прысеў ля маленькага століка, за якім прыткнуліся Бэлка і Андзя Салдат. Пачаў размаўляць з Бэлкай і адначасова, зпадцішка, сачыў за Фэляй, якая працягвала скакаць з Каралём Фабіньскім. Выглядала выдатна. Была ў чорнай сукенцы. Да яе твару найлепш пасавалі цёмныя колеры, зь якіх, нібы з рамы, выглядаў смуглы воблік -- пекная галоўка і шыя. У скоках рухалася так вольна, што здавалася: танец -- гэта адзіны ўласьцівы ёй сродак перасоўваньня. Ня мог адарваць ад яе вачэй. Няўважліва слухаў тое, што казала Бэлка, і ўсьцяжназіраў за Фэляй. Дзяўчына, здаецца, адчула гэта і прамовіла:

-- Пан Уладак нявыхаваны: ён ня слухае мяне!

Схамянуўшыся, пачаў жвава размаўляць з Бэлкай і выказваць да яе падкрэсленую ўвагу. Прапанаваў патанцаваць.

-- Ці пану не хапае скокаў на граніцы? -- запытала мяне Бэлка.

-- Пані мае рацыю.

Нахіліўшыся праз столік, кажу ёй на "ты", як звычайна прынята, калі размаўляюць без "умоўнасьцей":

-- Бэлка, калі?

-- Што?

-- Ну, тое... што абяцала ў мінулы раз, як праводзіў цябе дахаты.

Засьмяялася.

-- Табе гарыць?

-- Надта.

---

* Хэйрэм (жыд.) -- прысяга (заўвага перакладчыка).

Працяг.
Пачатак у №№ 29—38.

*ВЕЧАРЫНА Ў НАЦЫЯНАЛЬНАЙ БІБЛІЯТЭЦЫ*

# ЗЬНІЧ У "ЗЬНІЧА"

На імпрэзу, пра якую маю распавесці, не ў апошнюю чаргу мяне прывялі мяккія знакі на афішах, што з'явіліся ў горадзе. Але найперш -- асоба, якая творыць пад псеўданімам Зьніч, асоба ў найвышэйшай ступені неардынарная -- Алег Бембель.

Зімою, на пачатку гэтага года, у насцюжанай зале Дома літаратара, у святле дзвюх свечак на сцэне, я ўпершыню трапіў на вечарыну гэтага паэта. Атмасфера той сустрэчы, узнёслая, найтанчэйшая, крохкая, рамантычна-мінорная, да гэтага часу чаруе мой успамін.

Гэтым разам Алег Бембель быў у цэнтры ўвагі Беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра "Зьніч". Адсюль такі каламбур у назве. Пра дзейнасць тэатра і яго аўтарскія сустрэчы ў абанементным цыкле "Тайна зьнічнага святла" -- гаворка асобная. Што да гэтае вечарыны, то яна дала магчымасць зноў цешыцца жывым сумоўем з паэтам, музыкантам, філосафам, мудрым, крыху наіўным, але і дасціпным. Гэты творца з абліччам, якое мне асабіста нагадвае Эразма на партрэце Альбрэхта Дзюрэра (пэўна, праз шыкоўныя кучаравыя пасмы да плеч), шырокаму колу чытачоў амаль незнаёмы. На вялікі жаль. Тое, што друкавалася ў нас, рэдка раскідана па перыёдыцы. Зборнікі ж вершаў выходзілі толькі за мяжою. А між тым, нагадаю, адзін з паэтаў "Белавежы" назваў Зьніча Моцартам паэзіі.

Пасля таго, як прагучала бетховенская "Саната поўні" ў выкананні героя вечарыны і былі сказаныя ўступныя словы, далікатная дзяўчынка стала чытаць вершы паэта -- нізку вершаў, зусім не дзіцячых. Ужо потым даведаўся, што 10-гадовая Тацьцянка -- хрэсніца спадара Бембеля, што выбірала вершы для чытання са сцэны яна сама, што праз гэтыя вершы яна вучыцца нашай мове, бо сям'я яе -- рускамоўная. Потым вяла рэй Ірына Багдановіч, паэтка, літаратуразнаўца, чуйны крытык. Нарэшце, сам паэт стаў чытаць свае новыя вершы. Чытанне гэтае, трэба сказаць, выдатнае. Вядома, што рэдка калі аўтар добра можа прамовіць свой верш. Яшчэ больш бывае пакутна слухаць дэкламацыі прафесійных чытальнікаў. Тут жа адбылося шчаслівае спалучэнне: і аўтарскае чытанне, і вершы ў выкананні актрысы Маргарыты Патапчук чаравалі спеўнасцю і шчырасцю. Спадарыня Маргарыта чытала радкі са зборніка "Храм і верш", выдадзенага ў Беластоку. З таго зборніка, дзе пад адною вокладкаю сышліся імёны Ларысы Геніюш, Наталлі Арсенневай, Галіны Тварановіч ды іншых аўтараў, чые вершы прасякнутыя малітоўнасцю; сярод іх -- Алег Бембель. І вось, калі актрыса чытала адзін з ягоных вершаў, трымаючы ў руках гэты зборнік, у зале ўсталявалася незвычайная ціша. Актрыса зрабіла паўзу, а потым павольна перажагналася. Гэты жэст быў такі натуральны, што зусім не выглядаў, як эфектны акцёрскі прыём. Актрыса спасцігла ўзвышаны духоўны настрой вершаў. Гэтае чытанне сталася кульмінацыяй у духоўным накале вечарыны, хоць потым хрысціянская лірыка паэта яшчэ гучала. Я не маю дасканалага досведу ў сучасным літаратурным працэсе, але ёсць уражанне, што прыхільнасць паэта Зьніча менавіта да хрысціянскае тэмы выштурхвае яго з, так бы мовіць, "мэйн стрым" -- агульнага рэчышча свецкай паэзіі. Некаторых гэтая прыхільнасць раздражнее, іншыя такія настроі ўважаюць дзівацтвам, многія ж гэтыя частоты проста не чуюць.

Значную частку сустрэчы склалі адказы на пытанні. Напэўна, асоба паэта, які выконвае на фартэпіяна складаныя класічныя творы, моцна зацікавіла маладых студэнтаў ды іншых прысутных. Цыдулак было вельмі шмат, а дыяпазон цікаўнасці надзвычай шырокі. Вось некаторыя з пытанняў: "Хто вы па гараскопе,.. ці даўно вы сталі вернікам,.. прачытайце вашы вершы пра каханне..." Асцярожны Кот і дзёрзкі Стралец, паводле гараскопа, адрасат цыдулак адказваў на пытанні карэктна, інтрыгуюча, дасціпна, часам досыць разгорнута. У адказе на пытанне, хто ёсць любімыя кампазітары, у нечаканым ракурсе з'явілася постаць Фрэдэрыка Шапэна. Паводле паэта Зьніча, гэты творца шмат у чым сугучны нашаму часу. Выгнаннік, разлучан... каханаю Айчынай, блізкі да адча... ачачы яе зняважанаю, са страчанымі нібыта надзеямі, ён сублімаваў свае трагічныя пачуцці ў творчасці і стварыў шэдэўры, якія праз містычныя сферы адраджалі забраны край. І Беларусь таксама мусіць выйсці з непрытомнасці праз сваіх Твор...

Але ...дказах на цыдулкі проза ўсё ж саступала паэзіі. З дазволу аўтара вершаў ніжэй змесцяцца некаторыя з іх, што прагучалі на сустрэчы. Яны ўвайшлі ў новы зборнік паэзіі з дзіўным назовам "Бывай, Героіка, альбо Роздум пра Сына Чалавечага", куды ўвайшлі вершы як духоўнай, так і грамадзянскай лірыкі, а таксама лірыкі кахальнай, незвычайна пачуццёвай і далікатнай. У пэўнай ступені гэтая тэатралізаваная сустрэча сталася прэзентацыяй зборніка, структурна ўкладзенага па прынцыпу музычнага твора -- санаты, як патлумачыў аўтар. Дай толькі, Божа, каб здзейснілася яго выданне. Вельмі цешыць тое, што пра выяўленчы шэраг гэтага зборніка рупіцца мастак Мікола Цудзік.

У пэўны момант І.Багдановіч, якая чытала і свае вершы, што дакладна патрапілі ў кантэкст імпрэзы, звярнулася да залы, ці ёсць у каго што сказаць па-за падрыхтаванаю праграмаю. Так, былі такія асобы ў зале. Натуральна, што былі. Прыйшлі людзі, якія даўно і блізка ведаюць Бембеля, прыйшлі тыя, якіх ён захапіў сваёй паэзіяй. Яны казалі добрыя словы, дарылі кветкі, выказвалі захапленне. Але да гэтае цёплай, зычлівай атмасферы дадалася горыч з трывожных радкоў спадарыні Галіны Тварановіч:

**"...Чаму ж здаўным-даўна**
**паэтаў любяць тых,**
**каторыя маўчаць ужо..."**

Мастак Алег Даўгяла, школьны сябра паэта, закрануў тэму бацькоўскай сядзібы, з якой Зьніч груба выкінулі. І кім? Руку да гэтай ганебнай акцыі прыклаў адзін з вучняў скульптара Андрэя Бембеля, бацькі паэта. Спадар Даўгяла казаў, што нярэдка сустракае сябра кепска апранутым, галодным, але, як ні дзіўна, у тым творчым стане, які сустрэчнага сілкуе сваёй энергіяй. Хай сабе і так, кажу я сам сабе, але неяк гэта дзіка і сумна.

Паланез Агінскага, самы слынны з усіх, што напісаў маэстра, скончыў сустрэчу. Хто іграў? Зразумела -- Зьніч, Алег Бембель. Адбывалася ўсё гэта ў лекцыйнай зале Нацыянальнай бібліятэкі Беларус... працоўнікі якой заслугоўваюць ... самыя шчырыя падзякі. Гэта яна, наша галоўная бібліятэка, дае прытулак аўтарскім сустрэчам тэатра "Зьніч". Гэта тут, у бібліятэцы, адк...аюцца "тайны зьнічнага святла". ...чацца, каб такіх таямніц не менела. А яшчэ хочацца, каб гэтая кароткая сустрэча мела працяг, што зусім верагодна: мастацкі кіраўнік тэатра Галіна Дзягілева зрабіла такую прапанову паэту. Вельмі хочацца, каб зборнік паэзіі, жартам названы аўтарам "Фаўсціна" (у тым сэнсе, што яшчэ не "Фауст"), каб гэты зборнік ва ўзорным паліграфічным выкананні прыйшоў да чытача. Што таксама мае шанц спраўдзіцца. Усё добра, "вот только с личным...", -- як спявае папулярны шансанье Малежык у песенцы "Привет", дзе ёсць слоўцы "Не по погоде одет...". Гэта да таго, што хочацца, вельмі, вельмі хочацца, каб любілі і цанілі нашых паэтаў тут і цяпер. Мо, тады і нашае жыццё, прыватнае кожнага і ўсёй нацыі, павернецца да лепшага.

А зараз -- вершы паэта Зьніча ў меры, якую дазваляе газетная публікацыя.

**Зьміцер КАЛІСТРА.**

**НА ЗДЫМКУ:** вечарына паэта **ЗЬНІЧА** ў Нацыянальнай бібліятэцы.



**ЗЬНІЧ**

## СЬВЯТЫ ПОКРЫЎ

**...чую слова вешчае:**
**Люблю... --**
**над маёю спеўнаю званіцай...**
**пакрываю Неба і Зямлю**
**Бел-Чырвона-Белай**
**Плашчаніцай.**

## БУДЗЬЦЕ ЯК ДЗЕЦІ

**...зайгралі Ангелы на небе**
**вечаровым**
**праменных струнаў...**
**хмараў... аблачын**
**сугуччы фарбныя --**
**у плыннасці хвілін --**
**люляла ты**
**ласкавым дрогкім словам...**
**...як лёгка творыцца на Небе**
**харawство...**
**як лёгка сэрцу слухаць**
**спеў Нябёсаў!**
**але вяртаецца**
**пануры свет**
**дарослых...**
**як сумны месяц...**
**ці самотны воўк...**

## СЫНАМ ЗЯМЛІ ПАД БЕЛЫМІ КРЫЛАМІ

**... хоць долею славы**
**зайздросны Парнас**
**падзеліцца з намі ня роўнаю,**
**браты, памятайма:**
**бяз кожнага**
**з нас**
**гісторыя Крыўі**
**ня поўная...**

## ВЫРАЙ ПЯЛЁСТКАЎ

**... бялюткія пялёсткі аблачын**
**цалуюцца з праменнаю сінечай**
**і ціха адплываюць ва ўспамін...**
**нібы расстанні ў пяшчоце вечнай...**

**... нібы расстанні ў**
**пяшчоце вечнай,**
**бялюткія пялёсткі аблачын**
**цалуюцца з праменнаю сінечай**
**і ціха адплываюць ва ўспамін...**

**...ціхутка адплываю ва ўспамін --**
**нібы расстанне ў пяшчоце вечнай...**
**бялюткія пялёсткі аблачын**
**цалуюцца з праменнаю сінечай...**

**..цалуюся з праменнаю сінечай...**
**ціхутка адплываць ва ўспамін --**
**нібы расстанні**
**ў пяшчоце вечнай --**
**бялюткія пялёсткі аблачын...**



**"І горы вакол яго..." Так называецца выстава ізраільскай графікі, прысвечаная 3000-годдзю старажытнага горада Ерусаліма, адкрытая ў Віцебскім мастацкім музеі. Перш чым трапіць у Беларусь, карціны ўжо выстаўляліся ў Бельгіі, Галандыі, Францыі, у краінах Балтыі.**

**Азнаёміўшыся з работамі, можна ўбачыць прыгажосць старажытнага Ерусаліма і яго наваколляў, разнастайнасць стыляў і школ сучаснага ізраільскага жывапісу і графікі.**

**НА ЗДЫМКАХ:** на выставе "І горы вакол яго..."; "Куток старога Ерусаліма" -- Айрагам ХАЙ.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**



## *КУЛЬТУРА*

**Паклоннікі таленту вядучага саліста Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі Рэспублікі Беларусь Аляксея Ісаева змаглі сустрэцца з любімым выканаўцам на аўтарскім канцэрце артыста "Вера, надзея, любоў", які з поспехам прайшоў у канцэртнай зале "Мінск". У першым аддзяленні праграмы Ісаеў спяваў старадаўнія рамансы ў суправаджэнні інструментальнага ансамбля пад кіраўніцтвам Уладзіміра Цатурава. Кожны раманс артыст заканчваў пад шквал апладысментаў.**

**У другім аддзяленні прагучалі эстрадныя песні сучасных аўтараў, якія былі шлягерамі мінулых гадоў. У канцэрце прынялі ўдзел беларускія кампазітары Эдуард Зарыцкі і Эдуард Ханок, заслужаны артыст Беларусі, дыктар Беларускага радыё Мікалай Чырык, паэт, лаўрэат прэміі Саюза журналістаў Рыгор Сакалоўскі і ўзорна-паказальны аркестр унутраных войск МУС Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам галоўнага дырыжора палкоўніка Мікалая Жарко.**



**НА ЗДЫМКУ: выступае Аляксей ІСАЕЎ.**

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА.**

Марыя ДУБОЎКА

# МАЕ САНАТОРЫІ І КУРОРТЫ

## УРЫВАЧНЫЯ ЎСПАМІНЫ

Пазней я іншы раз жартам казала яму: "Цяпер ты не вялікае дзіця, а старое дзіця, але ўсё ж дзіця". І гэта, мне здаецца, вельмі слушна.

Працавала я з захапленнем, рыхтавала шмат дапаможнікаў для самастойнай працы дзяцей, так што калі да мяне на ўрокі прыходзілі дырэктар і завуч, яны ў захапленні казалі: "Працуюць! Проста студэнты" (гэта першакласнікі). Прыходзілі з "высокіх устаноў", нічога дрэннага не маглі знайсці, а шукалі, як я зразумела пазней, для таго каб можна было скампраметаваць "былога педалога" не як асобу, а менавіта "педалога". З ЦКК адна жанчына-інспектар папрасіла ў мяне характарыстыкі вучняў, якія я складала, працуючы педалогам, мабыць, у надзеі знайсці ў іх кампраметуючыя педалога матэрыялы. Верагодна, нічога не знайшлі, таму што не выкарысталі, ды нічога там і не было, што можна было выкарыстаць супраць мяне або педалогіі. Тады пайшлі іншым шляхам. Нейкі час па горадзе распаўсюдзілася агідная звычка хуліганаў-сваволнікаў дзяцей ставіць фашысцкія знакі на агароджах, на спінах адзін аднаму, дзе папала. Хто ведае, адкуль гэта. Мае вучні гэтым не займаліся. Гэта рабілі старэйшыя дзеці.

Аднойчы вечарам мяне выклікалі ў школу. Прыходжу. У кабінеце дырэктар і пераапранутыя "шэфы", дрэнна замаскіраваныя (без масак, вядома). "Вашы малюнкі" -- г. зн. малюнкі маіх вучняў. Я прыношу, ужо па тоне адчуваючы нешта нядобрае. А малюнкі ў маіх дзяцей былі цудоўныя. Малявалі фарбамі, прытым у кожнага быў свой набор, пэндзлі, баначкі з вадой. Маляваць любілі, малюнкі былі яркія і па зместу, і па выгляду. На некаторых намаляваныя былі баі або на моры, або ў паветры і, каб памеціць савецкі ці варожы параход або самалёт, дзеці ставілі або зорку, або свастыку. Нідзе, ні на адным малюнку не было асобна намаляванай свастыкі, тым не менш грозны тон паказаў, што "пільнае вока" нешта заўважыла і што гэта дастатковая прычына, каб раздуць гісторыю або пусціць цёмную гадзенькую чутку. На мяне гэта так падзейнічала, што я ледзь даплялася дадому, захварэла нервовым расстройствам, прычым з ускладненнем на суставы, не магла хадзіць і зусім злегла. Я зразумела, што пасля педалагічнай работы нельга ў тым самым месцы займацца педагагічнай, ды яшчэ з рэпутацыяй жонкі контррэвалюцыянера, і болей не спрабавала ў Чэбаксарах уладкавацца ў школу, а ўладкавалася ў бібліятэку. Працавала я ў кнігасховішчы. Мне трэба было прывесці яго ў парадак. Памяшканне было халоднае і сырое -- гэта дрэнна, але затое праца была цікава[я], дакладней кажучы, не прац[а] была цікавая, а было шмат цікавых кніг і яны -- іх чытанне, адцягвалі мяне ад працы, г. зн. ад прывядзення іх у парадак. А ў хуткім часе прыйшлося заня[цца] іншым: былі атрыманы спіс[ы] кніг, намечаных да забароны, і да гэтай работы прыйшлося прыцягнуць усіх супрацоўнікаў бібліятэкі і, значыць, і мяне. Не паспелі па адным спісе выключыць кнігі, як паступае другі -- і так увесь час. Работа гэта мяне вельмі нервавала: вельмі лёгка было прапусціць кнігу, г. зн. пакінуць яе ў бібліятэцы, забароненую, а мяне, вядома ж, западозрылі б у злым учынку і не паверылі б у памылку.

Мы чакалі канца другога тэрміну -- 20 ліпеня 1937 года. Дачакаліся. 20 ліпеня ў НКУС Уладзіміру Мікалаевічу сказалі, каб прыходзіў праз некалькі дзён за дакументамі, а ўначы 27 ліпеня прыйшлі з вобыскам і арыштавалі. Я папрасіла ордэр, там было напісана: "На вобыск і арышт". Калі я запыталася: "А арышт за што?", мне адказалі: "Гэта ў залежнасці ад вынікаў вобыску". "Тады чаму ж загадзя напісана -- на арышт, няўжо загадзя вядомы вынікі вобыску?". Увогуле, пустыя размовы. Трэба было перад грамадскасцю паказаць, што "нешта" ўсё ж ёсць, і сапраўды, пусцілі чуткі, што "нешта" было знойдзена пры вобыску.

Забралі ўсе дакументы Уладзіміра Мікалаевіча і некаторыя мае, усе кнігі, у якіх былі хоць нейкія паметкі, усе рукапісы, у тым ліку "Чайльд Гарольда" Байрана ў перакладзе на беларускую мову, шмат фотаздымкаў. На золку пайшлі і павялі Уладзіміра Мікалаевіча. Мне так урэзалася ў памяць яго спіна, якая ўсё аддалялася, і два ахоўнікі па баках, што яшчэ вельмі доўга, калі я думала пра Уладзіміра Мікалаевіча, перад вачыма стаяла гэта спіна з ахоўнікамі, а не яго твар.

Мы засталіся з Алікам. Праз некалькі дзён загадчык бібліятэкі перадаў мне, што ў НКА яму сказалі, што я не магу далей працаваць у бібліятэцы і каб я падавала заяву аб звальненні. Я адказала, што без работы жыць не магу і заяву падаваць не буду. Назаўтра ён паклаў перада мной паперку, дзе было напісана, што я звольнена "па скарачэнні штатаў". Куды б я пасля гэтага ні звярталася ў пошуках працы, усюды мне адмаўлялі, нават прыбіральшчыцай мяне не бралі, хоць і былі вакансіі.

З кватэрай таксама было кепска. У доме, дзе была наша кватэра, рабілі рамонт. Усе жыльцы, у тым ліку і мы, жылі кожны ў сваёй дрывотні, якая была насупраць дома. Там праводзіўся і вобыск, і там арыштавалі Уладзіміра Мікалаевіча. Засяліцца ў кватэру было немагчыма, таму што там толькі-толькі пафарбавалі падлогу, і трэба было перачакаць некалькі дзён, каб фарба магла падсохнуць. Дрывотня наша не зачынялася. Дзверы мы прыкручвалі вяроўчынай да цвіка. Надышлі халодныя жнівеньскія ночы, нам з Алікам было страшна ўдваіх. Нейкі бяздомны сабака прыходзіў да нас на начлег, з ім было весялей і смялей.

Падышоў неяк да мяне камендант Чувашсаюза і папярэдзіў, каб мы не засяляліся ў кватэру, калі высахне падлога, што яна ўжо прызначана для новых работнікаў Чувашсаюза. І мы засталіся ў дрывотні. Сядзім, бывала, з Алікам на прыступках дрывотні, усе астатнія жыльцы перабраліся ў свае кватэры, і ў нашай ужо жывуць новыя людзі. Алік кажа: "Толькі мы ў дрывотні". Арышт бацькі ён вельмі перажываў. У яго паднялася тэмпература да 39 градусаў. Прыйшла ўрач, у дрывотні холадна. Што яна магла зрабіць?

Сын усё дапытваўся: "Мама, тата ж за савецкую ўладу, дык чаму ж яго арыштавалі?" Вось і прыходзілася казаць, што яны памыляюцца, яны думаюць або благія людзі нагаварылі, што ўсё гэта ўрэшце высветліцца.

Ён увогуле быў дапытлівы. Неяк ён запытаўся (было яму 9 гадоў): "А за каго будуць жабракі галасаваць, хто даў ім шчаслівае жыццё?" Гэта было перад выбарамі, і ў Чэбаксарах тады жабракі былі.

Пачала я шукаць прыватную кватэру, але ніхто мяне не хацеў да сябе пускаць. Баяліся, што гэтым яны выкажуць мне спачуванне, і за гэта можа напаткаць іх сумная доля. Тады я пачала хлусіць: муж выехаў, пакінуў мяне з сынам і г. д. Такім чынам я атрымала маленькі пакойчык за вялікую плату ў двух адзінокіх старых, і калі гаспадар з цягам часу даведаўся праўду, ён без канца паўтараў: "Ведаў бы, не пусціў".

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 35—38.**

**Пераклад з рускай мовы і публікацыя Яніны КІСЯЛЁВАЙ.**

## МІКАЛАЙ ШЧАКАЦІХІН — КАЛЕКЦЫЯНЕР

# ПРАПАЛА, ЯК І ТЫСЯЧЫ ІНШЫХ...

У 1922 годзе ў Савецкай Расіі было прынята рашэнне аб арганізацыі таварыства філатэлістаў. Яно было створана ў 1923 годзе і называлася Усерасійскае таварыства філатэлістаў (УТФ), але іншы раз прымянялася і неафіцыйная назва -- Усерасійскае таварыства калекцыянераў (УТК), таму што ў гэтым таварыстве значыліся не толькі філатэлісты, але і збіральнікі манет, бон, паштовак і інш. Аддзяленні гэтага таварыства былі адкрыты ў Мінску, Гомелі, Рагачове, Віцебску, Мазыры. Аб дзейнасці беларускага аддзялення гэтага таварыства амаль нічога невядома, пакуль не знойдзены архіўныя дакументы. Удалося выявіць толькі прозвішчы некаторых мінскіх калекцыянераў тых гадоў. Не ўсе яны былі філатэлістамі, частка з іх захаплялася баністыкай, нумізматыкай, філакартыяй. Сярод вядомых прозвішчаў у 1924 годзе сустракаецца прозвішча беларускага вучонага, прафесара М.Шчакаціхіна. У спісах беларускіх калекцыянераў указана, што Шчакаціхін захапляўся нумізматыкай, сфрагістыкай (друку) і калекцыяніраваў медалі (цяпер гэтую галіну калекцыя[...]ання называюць фалерыст[ык]ай). Якіх-небудзь падрабязных звестак аб калекцыях тых гадоў не захавалася. Мы не ведаем аб якой-небудзь грамадскай рабоце калекцыянераў тых гадоў. Але можна меркаваць, што работа такая вялася, трэб[а то]лькі знайсці дакументы. Нічог[а та]ксама невядома і аб калекцыях Шчакаціхіна. Прыехаўшы ў Мінск у канцы 1921 года і паступіўшы на працу ва універсітэт, Шчакаціхін тут жа стаў членам беларускага аддзялення УТФ. А гэта гаворыць аб тым, што ў Мінск ён прыехаў сфарміраваным калекцыянерам.

У тыя гады ўсякія таварыствы і саюзы перажывалі перыяд станаўлення -- яны ўзнікалі і ліквідоўваліся. У іх работу ўмешваліся партыйныя, савецкія органы і асабліва АДПУ. Калекцыянеры стараліся аб'яднацца, даведацца адзін пра аднаго. Можа таму ў тыя гады ў розных буйных гарадах СССР выдаваліся адрасныя кніжкі калекцыянераў, з якіх сёння можна здабыць некаторыя звесткі і аб беларускіх калекцыянерах. Сустракаецца там прозвішча і М.Шчакаціхіна.

У "Советском коллекционере" за 1929 год быў апублікаваны артыкул Ц.Мількінай аб Беларускім таварыстве калекцыянераў (БТК). Для стварэння таварыства быў арганізаваны аргкамітэт з 12 чалавек (на жаль, прозвішчы не ўказаны), які выпрацаваў статут таварыства. Ён быў зарэгістраваны -- і што самае галоўнае -- зацверджаны Наркаматам унутраных спраў БССР, г.зн. беларускае таварыства калекцыянераў, як, зрэшты, і ўсе падобныя таварыствы ў СССР, было пастаўлена на ўлік у НКУС і працавала па статуту. Арганізацыйны камітэт прыцягнуў у новастворанае "таварыства такіх вядомых калекцыянераў-аматараў рэспублікі, як прафесар А.Кайгародаў (філатэліст), прафесар М.Шчакаціхін (нумізмат), прафесар А.Вазнясенскі (баніст) і г.д.".

У 1930 годзе ў Пскове выйшла "Адрасная кніжка членаў калекцыянерскіх таварystваў у СССР". У ёй ёсць спіс Усебеларускага таварыства калекцыянераў. Ён няпоўны. Сярод іншых калекцыянераў у спісе значыцца "Шчакаціхін М.М. -- манеты, медалі".

Больш даных пра Шчакаціхіна-калекцыянера няма, як нічога невядома і аб яго калекцыях. Якія яны былі? Колькі манет было ў калекцыі, якога перыяду, якімі медалямі цікавіўся калекцыянер. На гэтыя і іншыя пытанні сёння, відаць, ужо не ўдасца адказаць. Пакуль не знойдзены і яго артыкул на нумізматычную тэму.

У сваёй аўтабіяграфіі, напісанай 12 жніўня 1930 года на допыце ў час следства па справе так званага "Саюза вызвалення Беларусі", ён не ўпамінае пра сваю калекцыйную дзейнасць у Беларусі, а толькі пра навуковую, але звязаную і з яго захапленнем: "...займаўся абагульненнем матэрыялаў па вывучэнню тапаграфіі манетных знаходак...".

Знаходзячыся ў ссылцы ў с.Белябей, а затым у с.Кальтоўцы Башкірскай АССР, М.Шчакаціхін працягваў займацца нумізматыкай. Незадоўга да смерці ў сваім пісьме ад 2 лютага 1939 года акадэміку У.Пічэце Шчакаціхін пісаў: "...жывучы ў Белябеі, я напісаў і цалкам падрыхтаваў да друку дзве работы: І) "Вадзяныя знакі Літоўскай метрыкі" і 2) "Скарбы з літоўскімі манетамі як матэрыял для гісторыі літоўскай нумізматыкі і грашовага абарачэння да канца XVII стагоддзя". /Варта адзначыць, што старадаўняя папера з вадзянымі знакамі, самі знакі -- таксама з'яўляюцц прадметамі калекцыяніравання/. Сваю работу па нумізматыцы М.Шчакаціхін паслаў на рэцэнзію ў Нумізматычны аддзел Дзяржаўнага Эрмітажа ў Ленінградзе і прасіў захаваць рукапіс. (Магчыма, у архівах гэтага аддзела праца М.Шчакаціхіна захавалася). Вядомыя ў той час вучоныя-нумізматы А.Ільін і М.Баўэр далі вельмі высокую ацэнку і станоўчы водгук аб гэтай рабоце. "...з'яўляецца каштоўным укладам у гісторыю грашовага абарачэння заходнерускіх зямель".

**[Заканчэнне на 8-й стар.].**


НАРОДНЫЙ КОМИССАРИАТ ЮСТИЦИИ Р.С.Ф.С.Р.
Отдел прокуратуры по надзору за О.Г.П.У.
МОСКВА, Спиридоновка, 30.
К84

## ВОСЕНЬСКІЯ ФАРБЫ РОДНАЙ ЗЯМЛІ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

З якой фантазіяй і любоўю выкананы дзецьмі, іх бацькамі і выхавальніцамі работы "Восеньскае сонейка", "Жыццё чалавека", "Краіна казак"! Асабліва ўразіла кампазіцыя "Ураджай", дзе разнастайная садавіна і гародніна ляжала побач з пышным караваем, а з бурака, морквы і бульбы выраблены цудоўныя кветкі і чароўныя ўзоры. Бульба -- жаданая ў кожнай беларускай хаце. Нездарма на выставе прысвяцілі ёй значнае месца, сабраўшы бульбіны незвычайнай формы, колеру і велічыні. Але асабліва падабалася наведвальнікам работа "Пашанцавала як!" (аўтары Беразавік Н., Лыч Л.) з грыбам-баравіком каля бярозавага пянька. Грыб-велікан важыў 760 грамаў і здзіўляў сваёй важнасцю і прыгажосцю.

"Прывіць дзецям любоў да роднай зямлі, закласці ў душах аснову духоўнасці і пачуцця прыгожага -- галоўная задача нашай працы з дзецьмі", -- гаворыць выхавальніца Л. Місуна. Не кожны чалавек можа ўявіць птушачку, пагледзеўшы на звычайны сучок, або змайстраваць лесавічка з галоўкі часнаку. У дзіцячым садку вучаць малых бачыць незвычайнае ў самым паўсядзённым, здзіўляцца і радавацца прыгажосці.

Творчых поспехаў творчым людзям!

**Алена МАХНАЧ.**

**НА ЗДЫМКАХ:** работы з выставы.

Фота Віктара СТАВЕРА.







# ПРАПАЛА, ЯК І ТЫСЯЧЫ ІНШЫХ...

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

Але нягледзячы на станоўчы водгук, работа ссыльнага вучонага і калекцыянера так і не была ў той час нідзе апублікавана.

Такі ж лёс спасціг і другую працу вучонага па нумізматыцы. У тым жа пісьме акадэміку У.Пічэце Шчакаціхін успамінаў: "Яшчэ з 1932 года я пачаў даволі вялікую працу пад загалоўкам "Нарыс гісторыі літоўскай манеты XVI--XVII стагоддзяў", лічачы, што літоўская манета заслугоўвае асобай манаграфіі, а такой манаграфіі няма, а ўсё тое, што напісана пра літоўскую манету польскімі нумізматамі, -- і недастатковае, і тэндэнцыйнае. Да гэтага часу (1939 год. -- **Л.К.**) я скончыў першую частку працы -- да Люблінскай уніі (выйшла 11 друкаваных аркушаў), цяпер пакрысе працую над другой часткай. Але гэтую працу, як яшчэ не скончаную, я пакуль нікуды не спрабаваў уладкоўваць, хаця напісаная першая частка, бадай, мае і некаторае самастойнае значэнне. Такія сумныя мае навуковыя справы".

Дзе цяпер гэтая праца вучонага і калекцыянера-нумізмата, невядома. Відаць, назаўсёды страчана. Як страчаны, разрабаваны, а можа і знішчаны самі калекцыі. Многія факты тых гадоў пераконваюць, што пры арыштах калекцыі забіраліся і назаўсёды знікалі. Многія і многія калекцыі беларускіх філатэлістаў, баністаў, мізматаў, падобна да Шчакаціхінскай, у час арышту былі канфіскаваны, потым згублены. Таму што было ўказанне знішчаць "рэчавыя доказы", вось калекцыі і спальваліся. Прывяду адзін цікавы дакумент 1937 года. Ён знойдзены, праўда, не ў беларускіх архівах, але характэрны для той пары. Знаходка падобнага дакумента ў нас у рэспубліцы цалкам верагодная.

Відаць, нехта Садоўнікаў Гаўрыіл, які жыў у Іркуцку, быў арыштаваны органамі АДПУ, а затым адпушчаны. Пры арышце ў яго была канфіскавана калекцыя (з дакумента няясна, якая), а пры вызваленні яму гэтая калекцыя не была вернута. Садоўнікаў спрабаваў высветліць, дзе яго калекцыя, відаць, пісаў пісьмы, запыты, заявы і ў АДПУ, і ў пракуратуру. Адзін з адказаў на яго запыты такі. На адваротным баку паштовай карткі нанесены спецыяльны тэкст-трафарэт: "Народны камісарыят юстыцыі РСФСР. Аддзел пракуратуры па нагляду за АДПУ. Масква. Спірыдонаўка. 30". І далей тэкст: "N К84. 15.VI. 1931 г. Хадайніцтва Ваша аб вяртанні калекцыі накіравана пракурору Усходняй Сібіры (Іркуцк) на разгляд, куды Вам і належыць звярнуцца па ўсе даведкі. Сакратар пракуратуры пры АДПУ. Подпіс". На дакуменце ёсць рэзалюцыя: "16.Х.31. Заява накіравана пракурору Заб. чыгункі. Чыта. Подпіс".

Відаць, не атрымаў назад сваёй калекцыі Гаўрыіл Садоўнікаў. Прапала яна ў нетрах АДПУ, як тысячы іншых.

**Леў КОЛАСАЎ.**

# ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

**АСТРЭЙКА Надзея Яфімаўна** шукае свайго дзядзьку **ГАРДЗЕЙЧЫКА Тараса Паўлавіча**, які нарадзіўся ў 1890 або 1891 годзе ў вёсцы Веляцін Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці, а таксама дзвюх яго дачок Ганну і Таццяну, якія жывуць у Галандыі.

У грамадзянскую вайну 1917 года Тарас Гардзейчык трапіў у Галандыю як ваеннаслужачы, потым ажаніўся і там застаўся жыць. Вядома, што ў пачатку 80-х гадоў ягоныя дочкі Ганна і Таццяна шукалі сваякоў у Беларусі і пісалі ў Хойніцкі гарвыканком, але з-за рознасці нашых прозвішчаў адзін аднаго тады мы так і не адшукалі, а адрас іх не захаваўся.

Калі хто-небудзь нешта ведае пра лёс майго дзядзькі **ГАРДЗЕЙЧЫКА** Тараса або яго дачок ГАРДЗЕЙЧЫК Ганны і Таццяны, просьба паведаміць на адрас:

**Беларусь, 224002, г. Брэст, Паўднёвы гарадок, д. 443, кв. 38. Астрэйка Надзеі Яфімаўне.**

Беларускі навукова-даследчы цэнтр дакументазнаўства, археаграфіі і архіўнай справы (БелНДЦДААС) і гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта 15 лютага 1996 года праводзяць навуковую канферэнцыю па тэме:

**"М.М. УЛАШЧЫК І ПРАБЛЕМЫ БЕЛАРУСКАЙ ГІСТАРЫЯГРАФІІ, КРЫНІЦАЗНАЎСТВА І АРХЕАГРАФІІ (ДА 90-х УГОДКАЎ ВУЧОНАГА)".**

Аргкамітэт: М. Біч, Н. Гілевіч, А. Каўка, Г. Кісялёў, А. Ліс, У. Міхнюк (сустаршыня), Г. Сагановіч, В. Селяменеў, Г. Сурмач, В. Чамярыцкі (сустаршыня), П. Шупляк (сустаршыня). Рабочая група: С. Жумар, А. Каханоўскі, П. Лойка, У. Ракашэвіч, В. Скалабан (кіраўнік).

На канферэнцыю выносяцца наступныя пытанні:
-- М.М. Улашчык -- гісторык Беларусі. Яго жыццё, навуковая і грамадская дзейнасць;
-- спадчына М.М. Улашчыка і праблемы беларускай гістарыяграфіі і крыніцазнаўства:
-- М.М. Улашчык -- археограф. Стан і перспектывы беларускай археаграфіі;
-- уклад М.М. Улашчыка ў гістарычнае краязнаўства Беларусі.

Заяўкі на ўдзел у канферэнцыі з указаннем тэмаў дакладаў і паведамленняў просім накіроўваць да 15 снежня 1995 года на адрас: *220030, Мінск, вул. Кірава, 43. БелНДЦДААС. Запрашэнні высылаюцца ў пачатку студзеня 1996 года.*

Даклады і паведамленні, заслуханыя на канферэнцыі, будуць выдадзены асобным зборнікам.

**Даведкі па тэл. 29-32-85, 27-30-14, 26-01-75.**

## СПОРТ

ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА. Мінчанін Аляксандр Главацкі ўстанавіў новы рэкорд Беларусі ў скачках у даўжыню -- 8 метраў 22 сантыметры. Наш спартсмен на спаборніцтвах у Італіі заняў першае месца, апярэдзіўшы чэмпіёна свету Д. Бэдфорда з Ямайкі.

ДЗЮДО. У Японіі завяршыўся чэмпіянат свету. Беларусь прадстаўлялі шэсць спартсменаў. Пяцёра з іх -- Н.Багіраў, І.Каліеў, Р.Шарапаў, Л.Свірыд і Т.Масквіна на гэтых спаборніцтвах змаглі заваяваць пуцёўкі на Алімпійскія гульні, што адбудуцца ў наступным годзе ў Атланце.

СТРАЛЬБА. Беларус Ігар Басінскі заняў першае месца на чэмпіянаце Еўропы ў стральбе з буйнакаліберната пісталета (60 выстралаў). Ён жа ўзнагароджаны яшчэ і сярэбраным медалём. Спаборніцтвы праходзілі ў Швейцарыі.

ФУТБОЛ. Стаў вядомы сапернік мінскіх дынамаўцаў у адной шаснаццатай розыгрышу Кубка УЕФА. Гэта "Вэрдэр" з Брэмена. Першую сустрэчу нашы футбалісты правядуць у гасцях.

Намеснік рэдактара
Дзіяна ЧАРКАСАВА

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:
220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак.5131. Падпісана да друку 9.10.1995 г.